*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 6 (218) | 8 лютага 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

У ГАРОДНІ ЗНОЎ КОНКУРС! Стар. 3.

ЦІ АПАЛЯЧАЦЬ БЕЛАСТОЦКІХ БЕЛАРУСАЎ? Стар. 4.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **26 СТУДЗЕНЯ ГРУПА БЕЛАРУСКІХ ДЭПУТАТАЎ І ДВА ПРАДСТАЎНІКІ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ У СЛУХАННЯХ, ШТО АДБЫЛІСЯ Ў РАСІЙСКАЙ ДУМЕ.** Вярнуўшыся ў Менск, першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслаў Кузняцоў сказаў, што ў сваім выступленні ў Думе ён выказаўся супраць дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў, бо гэта перакрэсліць СНД і верне краіны да двухбаковых адносін. Прадстаўнік БНФ дэпутат Сяргей Навумчык заявіў, што візіт быў плённым хаця б таму, што «мы змаглі азнаёміцца з думкай розных фракцый і прадстаўнікоў урада» і гэта дазволіць лепш прагназіраваць сітуацыю. У час слухання член расійскай Думы спадар Затулін сказаў: «Мы будзем праследаваць выканаўчую ўладу за шантаж у адносінах з Беларуссю».

❍ ***МІНІСТР КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ НАВЕДАЎ ФРАНЦЫЮ,*** *дзе ў горадзе Страсбург прыняў удзел у рабоце 63-ай сесіі Савета Еўропы па культурнаму супрацоўніцтву.*

❍ **РЭАЛІЗАЦЫЯ ДАГАВОРА АБ ЗВЫЧАЙНЫХ УЗБРОЕНЫХ СІЛАХ У ЕЎРОПЕ ЎСТУПІЛА Ў СВАЮ ЧАРГОВУЮ ФАЗУ** — пачаўся трэці этап скарачэння, у ходзе якога Беларусь прадоўжыць ліквідацыю абмежаванай Дагаворам ваеннай тэхнікі. Ужо да лістапада трэба будзе скарацiць яе на 868 баявых танкаў, 440 баявых браніраваных машын, 46 баявых самалётаў.

❍ ***МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ РАСПАЎСЮДЗІЛА ЗВАРОТ ЗА ПОДПІСАМ НАМЕСНІКА МІНІСТРА ІВАНА КАРЭНДЫ ДА СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ,*** *у якім гаворыцца: «Міністэрства культуры і друку звяртае ўвагу рэдакцый газет і часопісаў на тое, што з 1 студзеня 1995 года ўведзены ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў». Згодна з артыкулам 8 гэтага закона ў рэспубліцы забараняецца рэклама алкагольных напіткаў і тытунёвых вырабаў ва ўсіх сродках масавай інфармацыі».*

❍ **ЧАСОПІСУ «НЕМАН» СПОЎНІЛАСЯ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ.** Рэдакцыя газеты віншуе «нёманцаў» з юбілеем і жадае поспехаў у іх справе.

❍ ***АПОШНІМ ЧАСАМ У БЕЛАРУСКУЮ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНУЮ ГРАМАДУ ЎСТУПІЛІ*** *мастак-графік Уладзімір Басальга, рэктар Беларускай Акадэміі мастацтваў, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, а таксама былы міністр замежных спраў, а цяпер прэзідэнт Фонду эканамічнага і палітычнага прагнозу Пётр Краўчанка.*

❍ **У ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АДБЫЎСЯ СОТЫ ПАКАЗ СПЕКТАКЛЯ «ТУТЭЙШЫЯ», ЯКІ ІДЗЕ З ВОСЕНІ 1990 ГОДА І КОЖНЫ РАЗ — З АНШЛАГАМ.**

❍ ***ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ, ЯКІ ВЫКОНВАЕ АБАВЯЗКІ СТАРШЫНІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА,*** *па старой выкладчыцкай звычцы ацаніў сітуацыю з захаваннем канстытуцыйнай законнасці ў нашай краіне па пяцібальнай шкале. Нашым «дасягненнем» у будаўніцтве прававой дзяржавы спадар Ціхіня паставіў слабенькую «троечку».*



## Новы «Саюз беларускіх патрыётаў» у Баранавічах

(дзе і што?)

Нацыянальна свядомая моладзь Баранавіч імкнецца стварыць непалітычную патрыятычную арганізацыю. Яе канчатковая назва будзе вызначана пасля ўстаноўчага сходу, які неўзабаве мае адбыцца. Але сваім папярэднікам мы лічым «Саюз беларускіх патрыётаў», які існаваў у горадзе ў 1946—47 гадах і быў бязлітасна разгромлены камуністычнымі карнымі органамі.

**Руслан РАВЯКА,**
**прэс-сакратар аргкамітэта.**

ЯКІ ЛЁС СТАРАДАЎНІХ МУЗЕЙНЫХ І БІБЛІЯТЭЧНЫХ ЗБОРАЎ НА БЕЛАРУСІ? Стар. 4.

*У ГАЗЕТАХ*

# ШЫЛЬДА — НОВАЯ...

Са студзеня г.г. праз кіёскі «Саюздруку» і іншымі шляхамі (пакуль без афармлення падпіскі) пачалі распаўсюджвацца першыя нумары штотыднёвай газеты беларускіх камуністаў «Товарищ». Якімі ж новымі ідэямі на чатырох палосах фармату «Правды» цяпер вырашылі падзяліцца з чытачамі тутэйшыя паслядоўнікі «ума, чести и совести нашей эпохи»?

Пад рубрыкай «Наша позиция» друкуецца «цвік праграмы» — артыкул сакратара ЦК Партыі камуністаў Беларусі (ПКБ) Васіля Новікава. Маючы на ўвазе вядомыя Белавежскія пагадненні, якія юрыдычна замацавалі распад камуністычна-савецкай імперыі, аўтар адкрыта называе іх «грандиозным и уникальным в истории человеческой цивилизации негодяйством». Ён лічыць таксама, што літоўскі «Саюдзіс», украінскі Рух і наш Народны фронт — «ударные националистические отряды мирового капитализма», «силы современного мракобесия, щедро финансируемые Западом». На думку В.Новікава, у сучасным беларускім грамадстве ўжо вызначылася некалькі ліній верагоднага расколу. Адна з іх — «поголовная «беларусизация» или реально сложившееся двуязычие?» Як бачым, камуністычны сакратар, не хаваючыся, рашуча выступае супраць дзяржаўнасці роднага слова на яго адвечнай, гістарычнай Бацькаўшчыне, а значыць, супраць нашага нацыянальнага Адраджэння ўвогуле. Жахлівыя ж вынікі гвалтоўнай асіміляцыі беларускага этнасу, атрыманыя намі ў спадчыну пасля двух стагоддзяў татальнай русіфікацыі, ён бессаромна хавае пад шапку «реально сложившегося двуязычия». Пачуццё меры зусім пакідае аўтара, калі ён піша пра сваіх палітычных апанентаў, прыхільнікаў БНФ. Аб апошніх, напрыклад, нават сцвярджаецца, што «на их удочку попадается эмоциональный, легко ранимый Президент»!

Падкрэслім, што і ў іншых публікацыях другога нумара "Товарища", дзе прама ці ўскосна гаворыцца аб сівой мінуўшыне, аб падзеях нядаўняй айчыннай гісторыі, з верхам хапае выказванняў, якія сёння проста цяжка ўспрымаць усур'ёз, бо ідэйкі гэтыя — учарашнія, прасякнутыя атрутным камуністычным дурманам, толькі паслядоўнае вызваленне з палону якога дазволіць нам жыць, урэшце, па-людску. Так, М.Штранвасер з Полацка адзначае: «Беларусь получила суверенитет из рук Ленина и большевиков 1 января 1919 года, как его получили и другие народы». А дацэнт Т.Мальгіна з Гомеля піша, што камуністы ніколі «не плевали на республику и свой народ». Яшчэ далей за іх пайшоў тут доктар сацыялагічных навук І.Катляроў, які спрабуе даказваць, што нібыта пры сацыялізме існавала нейкая «Великая Беларусь», калі «каждая национальная культура, в том числе и белорусская,.. становилась всё богаче и привлекательнее».

Палемізаваць з «товарищами» не мае сэнсу. Хоць бы таму, што ад згубніцкіх камуністычных дактрын даўно адхрысціўся ўвесь цывілізаваны свет. Але варта мець на ўвазе: у айчынных варунках нават непрацяглая рэстаўрацыя камуністычных парадкаў непазбежна прывядзе да нацыянальнай трагедыі.

**М.В.**

## *Весткі са Жлобіншчыны*

### Юбілейная вечарына ТБМ

У памяшканні цэнтральнай раённай бібліятэкі прайшла вечарына, прысвечаная пятай гадавіне ўтварэння раённай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны. Аб гісторыі і дзейнасці мясцовай арганізацыі ТБМ расказаў яе старшыня Мікалай Шуканаў, свае вершы прачыталі жлобінскія паэты Мікалай Карташэвіч, Павел Луд, Іосіф Рынейскі, Марыя Смірнова.

Невялікі канцэрт беларускіх песень да вечарыны падрыхтавалі выкладчыкі гарадской музычнай школы Наталля Трашко і Ларыса Сухан. Бібліятэчныя работнікі арганізавалі літаратурную выставу твораў пісьменнікаў і паэтаў-землякоў. Жадаючыя маглі набыць рэдкую ў Жлобіне літаратуру па гісторыі і культуры Беларусі.

### Конкурс сямейных свят

З поспехам праходзіць у Жлобінскім раёне конкурс сямейнага адпачынку, які праводзіць раённы аддзел культуры. Гэтае мерапрыемства стала сапраўдным святам народнай творчасці, прапагандай лепшых традыцый нашых бацькоў і дзядоў, аб чым сведчаць і перапоўненыя глядзельныя залы ў дамах культуры.

Тэматычныя конкурсныя праграмы прайшлі ўжо ў вёсках Рэкта, Кірава, Папаратнае, Нівы, Майскае і іншых.

### Аб'ядналі намаганні

Прадстаўнікі чатырох палітычных партый дэмакратычнага накірунку, якія сёння дзейнічаюць у Жлобіне, правялі агульны сход. Вырашана было аб'ядноўваць свае намаганні напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў. У гэты палітычны блок увайшлі сацыял-дэмакраты, нацыянал-дэмакраты, аб'яднаныя дэмакраты і Партыя БНФ.

**М.Ш.**
г.Жлобін.

ДАКІРЫЛІЧНАЕ ПІСЬМО НА БЕЛАРУСІ. Стар. 6.

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# У пашпарце — па-беларуску

Перадача чужых імёнаў у сваёй мове і сваіх імёнаў у чужой — не проста адна з моўных праблем сённяшняга часу. Гэтая праблема становіцца надзвычай актуальнай, калі ўспомніць, што пачалася выдача беларускіх пашпартоў. Пашпарт — гэта не толькі той дакумент, які вы мусіце паказаць у выпадку чаго міліцыянеру ці па якім вы можаце атрымаць у краме масла. Адна з функцый названага дакумента — сведчыць нацыянальнасць свайго ўладальніка. А беручы пад увагу тое, што адпаведнае графы ў беларускім пашпарце не будзе, то адзіная магчымасць выканаць гэтую функцыю — перадаваць прыналежнасць чалавека да пэўнай нацыі праз імёны і прозвішчы.

Калі ты беларус і імя тваё Васіль (Базыль), то і пішыся ў пашпарце так на ўсіх трох мовах: Васіль — Василь — Vasil (Базыль — Базыль — Basyl). (Пытанне пра англійскую транслітарацыю — асобнае, але мне больш імпануе думка пра перадачу ўласных імёнаў праз беларускую лацінку.) Калі ты, напрыклад, расіец і хочаш засведчыць: «Нягледзячы на тое, што я жыву на Беларусі, я не выракся сваёй нацыі і помню свае карані» — можаш пісацца як Васілій. Калі ты беларус Валянцін, то і пішыся: бел. — Валянцін, рас. — Валянцин (захоўваючы ў расійскім варыянце беларускае «яканне» і «цеканне»). Як ты ўкраінец — запісвайся, калі пажадаеш, «Валэнтын». І не трэба сваё ўкраінскае імя перарабляць на беларускі (хоць і брацкі, але не свой) манер.

А наконт таго, ці варта ў расійскай мове перадаваць «аканне» і «яканне» ў беларускіх уласных імёнах, то дазвольце прывесці такі аргумент. Журналісты суседняй краіны гавораць і пішуць: «белорусская газета «Звязда». Зусім лагічна — «Звязда», а не «Звезда» — бо гэта беларускае (а не якое іншае) імя ўласнае. Чаму б, зыходзячы з такога прынцыпу, не пісаць па-расійску, да прыкладу, «Аляксей» — калі гаворка ідзе пра беларуса.

На памяць прыйшоў даўні анімацыйны фільм пра тое, як на адным караблі сабраліся «Іваны» (уладальнікі старагабрайскага імя, якое пазней, шырока распаўсюдзіўшыся, атрымала ў розных краінах гучанне, адпаведнае фанетычнаму ладу мовы жыхароў гэтых земляў). І разам з расійскім Іванам там былі французскі Жан, нямецкі Ганс, а таксама Ян, Хуан і г.д. Правільна, навошта ж «перакладаць» імёны? Ганса, які жыве ў Францыі, ніякі француз не «даўмеецца» перарабляць на Жана. А ў нас — свой беларус будзе «перакручваць» свайго ж беларуса Ціхана — на Тихона. Ну а чаму б не Цихан?

Тут я закрануў тэму, якой прысвечаны ў «НС» публікацыі сп. Ул.Содаля. З аўтарам я цалкам згодны. У пацвярджэнне ягоных слоў пра тое, што толькі ў нас на Беларусі дазваляецца з аднаго прозвішча ствараць другое, магу прывесці показку, якая доўга ўжо «ходзіць» па мястэчку Ракаў. Не так даўно жыў тут чалавек, прозвішча якога было Баран. Нарадзіліся ў яго два сыны. А як выраслі ды даведаліся пра «некультурнасць» свайго прозвішча, то сталі — адзін Бáран, другі — Баранаў. Вось і атрымалася, што бацька і ягоныя два сыны — усе мелі розныя прозвішчы.

Напрыканцы яшчэ раз паўтаруся: праблема ўнармавання перадачы ўласных імёнаў з'яўляецца цяпер вельмі актуальнай. Бо якім чынам у масавым парадку выдаваць беларускія пашпарты, калі ніхто не ведае, як трэба правільна запаўняць старонкі на трох розных мовах?

Дарэчы, сваё імя і па-беларуску, і па-расійску я пішу аднолькава: Аляксей.

**Аляксей ШЭІН.**

**Ад рэдакцыі:** *У лісце спадар Аляксей папракнуў нас за рознае напісанне слова расійскі. Гэта, на жаль, праз недагляд. Просім прабачэння.*

# Хочацца, каб мы вучыліся на гістарычным вопыце

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Нашага слова». Вось ужо некалькі месяцаў чытаю вашу газету. З нечым згаджаюся, а з нечым — не, некаторыя артыкулы выклікаюць здзіўленне, а некаторыя — захапленне. Часам хочацца паспрачацца, выказаць сваю асабістую думку. І вось вырашыла напісаць пра адраджэнне беларускай мовы.

Часта ўспамінаю сваё дзяцінства — пачатковую школу. Якія нецікавыя і шэрыя ўрокі беларускай мовы там праводзіліся! А галоўнае — праводзіліся раз у тыдзень. І толькі адзін момант захаваўся ў маёй памяці: як мы ўсім класам смяяліся са слова «бэз». Самае цікавае, што настаўніца чамусьці смяялася гучней за ўсіх. Аб якой любові, аб якой пашане да роднай мовы можа ісці гаворка! Як мы зайздросцілі тым, хто быў вызвалены ад гэтых заняткаў! Беларуская слова здавалася нам грубым і немілагучным. І калі потым я выпадкова прачытала верш Я.Коласа «Зорка», была вельмі здзіўлена. Радкі ліліся, нібы музыка. Гэта было сапраўднае адкрыццё. Потым — творы Багдановіча, Купалы, Караткевіча. Не буду гаварыць, што цудоўныя скарбы беларускага слова раптоўна адкрыліся дзіцячай душы — гэта было б не поўнай праўдай. Некаторыя творы беларускіх пісьменнікаў у стылі сацрэалізму наганяюць страшэнны сум, і чамусьці іменна іх мы вывучаем у школе. Вось адкуль трэба пачынаць, а не крычаць фанатычна: «Жыве Беларусь!» Калі чалавеку штосьці навязваецца, гэта заўсёды выклікае пачуццё абурэння. Як бы хацелася, каб беларусы вучыліся на горкім гістарычным вопыце і зразумелі, што адраджэнне неабходна. Кожны чалавек мае права карыстацца той мовай, якой яму зручна — яўрэйскай, рускай, польскай. І дзяржава мусіць даць магчымасць рэалізаваць свае правы ўсім. Гэтага патрабуе простая мараль. Але дыскрымінацыя беларускай мовы — рэч ганебная. Хаця б з пачуцця ўдзячнасці, пашаны да зямлі, на якой жывём, і да яе народа, кожны павінен ведаць беларускую мову, нават тады, калі не адносіць сябе да беларускай нацыі.

Але трэба сказаць адназначна, што раз беларуская мова прынята Канстытуцыяй, абвешчана дзяржаўнай, то людзі, якія ўваходзяць у склад кіруючых структур нашай дзяржавы, абавязаны гаварыць на ёй. І што ж мы бачым? Ці то яны проста не ведаюць яе, ці саромеюцца гаварыць па-беларуску? Мы зневажаем самі сябе, чаго ж хочам ад іншых?

Трэба набрацца цярплівасці і маленькімі крокамі настойліва ісці да жаданай мэты.

**Ганна ГАВАРСКАЯ.**
г.Менск, 199-я гімназія, 11-ы клас.

Жыццё Таварыства

# ДВУХМОЎЕ РАЗБУРАЕ ДЗІЦЯЧУЮ ПСІХІКУ

## Зварот

***удзельнікаў «круглага стала» «Беларуская школа на шляху адраджэння» да міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь прафесара Васіля Стражава***

23 снежня 1994 г. г.Менск

Так сталася, што своеасаблівым індыкатарам дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь была і застаецца мова карэннага этнасу — беларуская мова. Гэта пацвярджаецца і тымі падзеямі, якія разгортваюцца апошнім часам вакол беларускай мовы. Пры маўклівай падтрымцы дэнацыяналізаваных колаў вышэйшай улады пачаўся шалёны наступ на беларускую школу, беспрэцэдэнтны паклёп на беларускую мову, ахайванне ўсяго беларускага. Робіцца гэта з адной мэтай — спыніць працэс нацыянальнага Адраджэння, не даць нашаму народу пабудаваць суверэнную дзяржаву. Усё гэта не можа не трывожыць тых, хто не абыякавы да лёсу народа, яго будучыні. Зноў выцягваецца на свет жупел ідэолагаў светлай будучыні — двухмоўе. Вынікі гэтага дзікага эксперыменту над беларускай нацыяй добра вядомыя. Многія беларусы сёння не валодаюць ні роднай беларускай, ні рускай мовамі, карыстаюцца так званай трасянкай. Нягледзячы на тое, што насельніцтва мае даволі высокі адукацыйны цэнз, культурны ўзровень яго паніжаецца, ідзе дэградацыя маладога пакалення, расце злачыннасць у грамадстве.

Вяртанне да двухмоўя — гэта шлях у імперыю, адмаўленне ад дзяржаўнага суверэнітэту, гэта разбурэнне беларускай культуры, пазбаўленне яе спецыфічных рысаў, дэмакратызму і гуманізму. Усялякія размовы аб неабходнасці для Рэспублікі Беларусь двухмоўя — гэта дэмагагічны прыём, палітычны лозунг, шырма, за якой і далей будзе праводзіцца дэнацыяналізацыя, а значыць і дэмаралізацыя беларускага народа.

Мова — гэта не толькі сродак камунікацыі. Мова — сродак культуры, універсальная форма захавання ведаў, адлюстраванне псіхалогіі народа. Двухмоўе раздвойвае асобу, бо чалавек не можа адначасова існаваць у двух культурах...

Нас, паважаны Васіль Іванавіч, здзіўляе і глыбока абурае тое, што Міністэрства адукацыі і навукі прымае спешныя патаемныя захады, каб ужо з 1 верасня 1995 года пачаць вывучэнне расійскай мовы ў беларускамоўных школах з першага класа. Для чаго?

Доследамі псіхолагаў-лінгвістаў, практыкай школы даўно даведзена, што блізкае двухмоўе неабходна ўводзіць на больш высокіх ступенях навучання, калі дзіця добра ўсвядоміць граматычную структуру роднай мовы, асвоіць патрэбную для маўлення колькасць слоў. У адваротным выпадку нават пры самай дасканалай методыцы не пазбегнуць інтэрферэнцыі, узаемапранікнення моўных сістэм. Пастаянны самакантроль абцяжарвае памяць вучняў, з'яўляецца прычынай неўрозаў, заікання. Спантанная ж размова дзяцей адбываецца на беларуска-расійскай трасянцы. Усё гэта адмоўна ўплывае на псіхічнае і інтэлектуальнае развіццё дзяцей, перакрэслівае саму ідэю нацыянальнай школы.

Мы, удзельнікі «круглага стала», заклікаем вас, паважаны Васіль Іванавіч, трымацца дзяржаўнай пазіцыі і рабіць усе захады перад урадам дзеля захавання беларускай мовы, што з'яўляецца асновай суверэнітэту Беларусі.

Мы заклікаем вас няўхільна выконваць Законы «Аб мовах» і «Аб адукацыі», Канстытуцыю, зрабіць усё магчымае, каб маладое пакаленне беларусаў мела магчымасць вучыцца і выхоўвацца ў роднамоўным беларускім інфармацыйным асяроддзі на ўсіх ступенях, расло здаровым, нацыянальна свядомым і культурным...

# УХВАЛА

## «круглага стала» «Беларуская школа на шляху адраджэння»

23 снежня 1994 г. г.Менск

Зыходзячы з агульнавядомых навуковых і педагагічных палажэнняў аб ролі і месцы роднай нацыянальнай мовы ў жыцці кожнай нацыі, ролі і месцы роднага слова ў развіцці асобы, нацыянальнай культуры і духоўнасці народа, удзельнікі «круглага стала» прыйшлі да высновы:

1. У суверэннай Рэспубліцы Беларусь, як і ва ўсіх краінах свету, дзяржаўная сістэма выхавання і навучання павінна быць толькі на дзяржаўнай мове карэннага этнасу. Дзяржава павінна спрыяць развіццю школ на мовах нацыянальных меншасцяў па іх жаданню.

2. Школа лічыцца народнай і дэмакратычнай толькі тады, калі яна функцыянуе ў роднамоўным інфармацыйным асяроддзі.

3. Адзначаем маруднае выкананне і маўклівае невыкананне Законаў «Аб мовах» і «Аб адукацыі» дзяржаўнымі структурамі сістэмы адукацыі, асабліва вышэйшых навучальных устаноў.

4. Міністру адукацыі і навукі, кіраўніцтву гарадскога ўпраўлення народнай адукацыі мэтазгодна выступіць з афіцыйнай заявай у сродках масавай інфармацыі аб тым, што спыненне, адступленне ў адраджэнні беларускай мовы і беларускай школы не будзе; аб тым, што кіраўнікі ўсіх узроўняў ад міністра да настаўніка і выхавацеля дзіцячай установы павінны выконваць Канстытуцыю (17 артыкул), Законы «Аб мовах» і «Аб адукацыі».

5. Навукоўцам-педагогам, настаўнікам рэкамендуем выступіць у сродках масавай інфармацыі, асабліва ў выданнях выхаваўчапедагагічнага накірунку аб значэнні роднай мовы ў духоўным развіцці дзіцяці, яго інтэлекту. Давесці да бацькоў агульнавядомыя і прынятыя ў свеце навуковыя палажэнні аб шкоднасці так званага двухмоўя для развіцця інтэлекту дзяцей.

6. З 1 верасня 1995 г. на ўсіх першых курсах ВНУ мэтазгодна пачаць выкладанне на дзяржаўнай беларускай мове, каб у 2000 годзе зрабіць першы выпуск спецыялістаў, навучаных і выхаваных у беларускамоўным прафесійным асяроддзі. Адначасова сёння ВНУ становяцца галоўным тормазам у адраджэнні і развіцці беларускай нацыянальнай школы. Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту трэба надаць з 1 верасня 1995 г. статус нацыянальнага. Ён павінен быць эталонам для ўсёй сістэмы выхавання і навучання ў беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі.

7. Забяспечыць настаўнікаў-прадметнікаў не толькі падручнікамі на беларускай мове, але і комплексам метадычна-даведачнай літаратуры па кожным прадмеце.

8. Прапанаваць адказным дзяржаўным асобам па моўных пытаннях выказвацца абачліва і адказна і ні ў якім разе не ў іранічным сэнсе.

9. Інстытут нацыянальнай адукацыі з 1995 г. павінен стаць як па мове, так і па змесце ў адпаведнасці са сваёй назвай і статутным прызначэннем. Навуковыя працы павінны выходзіць са сцэнаў інстытута толькі на дзяржаўнай беларускай мове.

10. Падрыхтаваць і выдаць масавым тыражом брашуру з гістарычным даведачным матэрыялам па багатай самабытнай беларускай сістэме выхавання і адукацыі.

11. Прапанаваць кіраўніцтву дашкольных і школьных устаноў і ВНУ забяспечыць афармленне устаноў дзяржаўнай сімволікай Рэспублікі Беларусь (сцяг, герб), месца гэтую атрыбутыку і ў наяўнасці для праўдзення культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў.

12. Ні ў якім разе... нельга пачынаць вывучэнне расійскай мовы з першага класа ў беларускіх школах. Гэта супярэчыць усім псіхолага-педагагічным установкам і нормам, зводзіць на нішто саму ідэю нацыянальнай школы. Прапануем перагледзець вучэбны план для беларускамоўнай школы, прадугледзець пачатак вывучэння расійскай мовы не раней, чым з 5-га класа.

13. Адраджэнне і развіццё беларускай школы стрымліваецца тым, што ВНУ за 5 гадоў пасля прыняцця Закона «Аб мовах» амаль што не прыступілі да яго выканання. Вышэйшая школа па-ранейшаму застаецца расійскамоўнай і таму яна не забяспечвае права беларусаў на атрыманне адукацыі на роднай мове, што з'яўляецца галоўным тормазам на шляху развіцця агульнаадукацыйнай сярэдняй школы ў Беларусі.

14. У мэтах заахвочвання выкладчыкаў у беларускамоўных навучальных установах усіх тыпаў захаваць вызначаную дзяржавай 10-працэнтную надбаўку да стаўкі.

15. Адраджэнне агульнаадукацыйнай школы патрабуе адэкватнага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння гэтых устаноў. Матэрыяльна-тэхнічная база школ, як вядома, даволі сціплая. Асабліва бедная яна ў школах, якія пераходзяць на беларускую мову навучання і выхавання. Рэкамендуем паскорыць выпуск вучэбна-метадычных дапаможнікаў, аўдыёвізуальных сродкаў, камплектаванне бібліятэк для гэтых тыпаў устаноў.

16. У Міністэрстве адукацыі і навукі ёсць ведамасная навуковая дзяржаўная ўстанова — Нацыянальны інстытут адукацыі. Калі ж гэтая ўстанова па змесце і па духу стане беларускай?

*Увага, конкурс!*

# «Зямля пад белымі крыламі». 1995

Шаноўныя дзяўчаты і юнакі! Паважаныя настаўнікі і бацькі! Мінуў яшчэ год у жыцці нашай Радзімы — маладой, незалежнай Беларусі. Шмат чаго мы перажылі, шмат чаму навучыліся за гэты год...

Каб дапамагчы вам, юнакі і дзяўчаты, знайсці сваё месца ў жыцці і не згубіць каштоўны час, заснавальнікі малога прадпрыемства «Гароднія-К» і Гродзенскае аддзяленне Фонду беларускай культуры абвяшчаюць аб правядзенні другога Рэспубліканскага конкурсу «Зямля пад белымі крыламі» (гісторыя і песні Беларусі) у г.Гродна.

Вынікі конкурсу 1994 г., у якім брала ўдзел каля 700 хлопцаў і дзяўчат з трох абласцей Беларусі, паказалі, што наш народ — таленавіты, яму ёсць аб чым успомніць, ёсць што расказаць.

Мэты другога конкурсу «Зямля пад белымі крыламі» — мацаванне свайго роду, пачуцця павагі, гонару за продкаў, адраджэнне памяці беларускага народа, адраджэнне беларускіх народных песень і музычных традыцый.

У конкурсе маюць права ўдзельнічаць асобы ва ўзросце ад 10 да 20 гадоў. Конкурс праводзіцца ў два туры. Першы тур — завочна з 15 студзеня да кастрычніка 1995 г. у Гродне па трох узроставых групах удзельнікаў: 1-я група — 10-14 гадоў, 2-я група — 15-17 гадоў, 3-я група — 18-20 гадоў. Другі тур вочны. У кожнай узроставай групе, на заключным канцэрце пераможцаў у Гродне ў лістападзе 1995 г. будзе вызначана 18 пераможцаў конкурсу.

Рукапісы трэба дасылаць Аргкамітэту ў двух экземплярах.

Конкурс складаецца з літаратурна-гістарычнага і музычнага раздзелаў. Удзельнік конкурсу мае права падаваць свае творы па аднаму ці па двух раздзелах. Удзельнік літаратурна-гістарычнага раздзелу павінен на конкурс даслаць (звяртаем на гэтыя абставіны асаблівую ўвагу):

1. Даведку пра сваю сям'ю, якая ўключае звесткі пра некалькіх продкаў — іх імёны, прафесіі, характар, творчыя здольнасці, месца пражывання і інш. Абазначыць генеалагічнае дрэва сям'і (не менш трох пакаленняў па адной лініі). Дадаць гістарычны матэрыял пра сваю вёску, вуліцу, школу.

2. Напісаны ўдзельнікам конкурсу твор (апавяданне, верш, эсэ, легенду) пра сваіх продкаў. Дзеля гэтага можна выкарыстаць звесткі, прыведзеныя ў даведцы, старыя фотаздымкі, лісты, іншыя сямейныя дакументы, баявыя ўзнагароды.

Аб'ём рукапісаў не абмяжоўваецца. Твор можа быць напісаны на беларускай мове або на іншай мове.

Музычны раздзел. Кожны ўдзельнік конкурсу можа напісаць сваю музыку на два тэксты (песні, вакальныя ансамблі, хоры і г.д.), якія друкуюцца.

Пры стварэнні мелодыі можна ўлічыць асаблівасці песень свайго рэгіёна.

Журы конкурсу, куды ўваходзяць гісторыкі, літаратуразнаўцы, пісьменнікі, кампазітары, педагогі, да 31 жніўня г.г. вызначае пераможцаў у кожнай узроставай групе па кожным раздзеле конкурсу.

Пераможцам конкурсу ў лістападзе 1995 г. у Гродне (аб дакладнай даце канцэрта будзе паведамлена дадаткова) будуць уручаны дыпломы, граматы і каштоўныя падарункі. Так, у 1994 г. пераможцы атрымалі магнітолы, плееры, карціны, гадзіннікі, шмат цікавых кніг, за што вялікае дзякуй нашым спонсарам, якія абяцаюць падтрымку і сёлета.

Лепшыя творы будуць прапанаваны да друку ў часопісах «Першацвет», «Свіцязь», газеце «Наша слова», іншых выданнях.

Заяўкі для ўдзелу ў Рэспубліканскім конкурсе «Зямля пад белымі крыламі» і свае творы дасылаць да 15 траўня 1995 г. на адрас: 230024 г.Гродна, вул.Гогаля, 45.

У заяўцы ўказаць:

1. Прозвішча, імя і імя па бацьку, дату і год нараджэння ўдзельніка конкурсу.
2. Хатні адрас і тэлефон удзельніка, тэлефон школы.
3. Раздзел конкурсу, у якім вы ўдзельнічаеце.

Па пытаннях, звязаных з удзелам у конкурсе, просім звяртацца па тэлефоне ў Гродне: 45-26-27. І апошняе. Шаноўныя бацькі, настаўнікі. Дапамажыце сваім дзецям у конкурсе і вы перажывяце разам з імі шчаслівыя імгненні.

Беларусы замежжа! Мы запрашаем і вас прыняць удзел у конкурсе.

**Па даручэнні Аргкамітэта Сяргей КАНУННІКАЎ.**
г.Гродна.

1.
* * *

Ой, паехаў Халімон
Рана поле араці.
А забыўся Халімон
Хлеба, солі ўзяці.

— Ой, чужыя жонкі
Абедаць нясуць,
А маей жа ж жонкі
Не відаць, не чуць.

Як я толькі на парог,
Мая жонка цуп да ног:
— А мой жа ж ты мілы,
Ды не бі ж ты мяне.

Я ў бяседзе была,
Я гарэлку піла:
Адну румку за цябе,
А другую за сябе.

2.
* * *

Калі б я была шэрай зязюляй,
Палящела б я Лукашку пад шубачку,
Пагладзіла б я ў Лукашкі кашулечку,
А чы беленька, а чы тоненька ў
Лукашкі кашулечка,
Так тоненька, як кляновая лісціначка,
Так беленька, як белая паперачка.

3.
* * *

Скора восені дажджом,
Мы ў Расію жыць пайдзем.
Мы набяром малайцоў
Ад матушак, ад айцоў
Ад жонушак маладых,
Ад рабяцішак малых.
Як жанатыя ідуць,
За імі жонкі ідуць,
Па рабяцюшку нясуць,
Дробны слёзанькі ільюць.
Як халастыя вязуць,
За імі дзевушкі ідуць.
За імі дзевушкі ідуць,
Разны песенькі пяюць.
— Ох, нам дзеўкі не да вас,
Бяруць ў салдаты нас.

4.
* * *

А каб жа я была перапёлкай,
Куды б захацела — палящела:
Ці ў шчырыя бары на ягады,
Ці ў цёмныя лясы на гарэшкі,
Ці ў цёмныя лугі на каліну,
Ці ў цёмныя лугі на чырвону.
У лузе маліна найгарчэйша,
Служэбная доля найпушчэйша.
Як я выйду малада за вароты,
Як я выйду малада за новыя,—
Ідуць слёзы, як у бярозы,
Ідуць слёзы крывавыя...

5.
* * *

— Ой ты, жаваранку, ранняя
пташка,
Чаго так рана з выраю вылецеў?
— Мяне пташкі белыя з выраю
ганілі:
Ляці, жаваранку, ў сваю старонку,
Там табе вадзіцы па самыя
крыльцы,
Там табе гарошку па самы
дзюбочак,
Там табе травіцы па самы каленцы.

*Як пішам?*

## Экспанат для калекцыянераў

Купіў у краме да Калядаў ананасавы напітак вытворчасці Брэсцкага камбіната безалкагольных напіткаў (ці мо лепей усё ж казаць — «напой») і вельмі мяне зацікавіла этыкетка. Здаецца, на першы пагляд усё выдатна — надпіс на беларускай мове (толькі ў кутку: С поліпринт). Але прыглядзьцеся: «Арамат Алжіра»... Вядома, мастак, што маляваў этыкетку, мог беларускую мову не ведаць (хоць мастакі, паміж іншым, не аднойчы даказвалі ў апошнія гады свой нацыянальны патрыятызм), але ж нехта, мусіць, і правяраў той надпіс як карэктар. Дык ці цяжка было элементарна зазірнуць у слоўнік!

А ўвогуле лепей было б напісаць — «Водар Алжыра». Уніз этыкеткі пазначана «энергетычная цэннасць... напою». У дадзеным выпадку для тых, хто яшчэ не цвёрда авалодаў беларускай мовай, карысна было б праверыць сябе з дапамогай Тлумачальнага слоўніка. «Цэннасць« — гэта ў беларускай «каштоўнасць», а спажыўцу ж хацелі паведаміць «энергетычную вартасць» напою.

А вось добрую, магчыма, «цану» такая этыкетка атрымае ў калекцыянераў — як рарытэт свайго часу. Канешне, калі вытворцы напою пачнуць рабіць надпісы на этыкетках пабеларуску граматна. Чаго ім і пажадаем.

**Руслан РАВЯКА.**
г.Баранавічы.

*Меркаванні* *Меркаванні*

# Выйсце — стварэнне нацыянальнай школы

Чаму так марудна ідзе працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, увогуле нацыянальнай годнасці, нацыянальнага прагматызму і беларускага патрыятызму? Вядома, просты чалавек у пераважнай большасці выпадкаў застаецца яшчэ палітычна і гістарычна непісьменным — Бог яму суддзя. Але адкуль столькі нігілізму ў адносінах да сваёй дзяржавы ў нашых кіраўнікоў — людзей адукаваных, якія павінны рабіць усё магчымае для адраджэння роднай мовы і гістарычнай памяці?

Мяне асабліва палохае правінцыялізм кіраўнікоў Беларусі. Возьмем, напрыклад, нядаўнія выказванні нашага Прэзідэнта аб тым, што беларускія падручнікі па гісторыі — нацыяналістычныя, таму іх трэба прама з друкарскага варштата перарабляць на макулатуру. Цікава было б паставіць пытанні шаноўнаму Прэзідэнту: ці бываюць падручнікі па нацыянальнай гісторыі ненацыяналістычныя, якія ўвогуле сэнс укладвае ён у згаданае паняцце?

Калі стаць тут на пазіцыю Прэзідэнта, то ненацыяналістычным гістарычным падручнікам па айчыннай мінуўшчыне, відаць, акажацца толькі той, дзе прыніжаецца годнасць беларусаў, дзе каты беларускага народа тыпу Пятра І і А.Суворава паказаны нацыянальнымі героямі, а маскоўская крывавая навала 1654—1667 гадоў, у выніку якой загінуў кожны другі беларус, абвяшчаецца вызваленчай вайной.

Летась па-ранейшаму ўладамі дзе забаранялася, дзе ціха сабаціравалася свята гістарычнай перамогі 30-тысячнага войска нашай дзяржавы 8 верасня 1514 года над 80-тысячным войскам маскоўскага цара пад Оршай. Афіцыйная падстава для гэтага проста смешная: ушанаванне перамогі пагоршыць адносіны з Расіяй. Але ж, напрыклад, кіраўнікі Вялікабрытаніі едуць у ЗША святкаваць адлучэнне сваіх былых трынаццаці калоній, якое ажыццявілася ў выніку барацьбы амерыканскага народа за незалежнасць. Заўважым, што ў той вайне загінула шмат англійскіх салдат. Ці возьмем гістарычныя стасункі немцаў з французамі. Гэтыя народы маюць таксама агульныя карані, бо іх дзяржавы і нацыі ўтварыліся пасля распаду імперыі Карла Вялікага. На працягу многіх стагоддзяў яны пастаянна варагавалі. Але мінулае ані не перашкаджае ім зараз з'яўляцца надзейнымі і трывалымі партнёрамі па ваеннаму і эканамічнаму саюзах. Іх супрацоўніцтву зусім не замінаюць святкаванні колішніх перамог аднаго над другім. Дык чаму ж наша свята перамогі пад Оршай павінна пагоршыць нашы адносіны з суседняй краінай? Калі тут строга прытрымлівацца логікі, то Расія ў сваю чаргу не павінна святкаваць, скажам, даты выгнання іншаземцаў з Масквы апалчэннем Мініна і Пажарскага, бо тыя «іншаземцы» — нашы суайчыннікі-продкі.

Прэзідэнт Латвіі нядаўна падкрэсліў, што адносіны яго краіны з Расіяй не палепшацца да таго часу, пакуль апошняя не перастане называць Прыбалтыку «ближним зарубежьем». Наш жа Прэзідэнт падчас тэлеперадачы «Момент истины» некалькі разоў называў Расію «старшим братом». Гэта яскрава сведчыць аб тым, што мы пры цяперашнім кіраўніцтве не падымемся да раўнапраўных адносін з суседняй краінай. Ці А.Лукашэнка забыўся, што ён — не прыватная асоба, а Прэзідэнт суверэннай краіны? Не ведаю, але мне за Бацькаўшчыну было вельмі сорамна.

Сённа ўвесь свет адраджаецца на нацыянальнай ідэі, а беларус бяжыць ад яе, усё яшчэ чапляецца за «общечеловеческие ценности», паводле якіх правы асобы ставяцца вышэй за правы нацыі. Але ж на Беларусі прыярытэт згаданых агульначалавечых каштоўнасцей азначае стаўленне правоў каланізатараў вышэй за гістарычныя правы мільёнаў абрабаваных і заняволеных карэнных жыхароў Беларусі. Такім чынам, вынікае, што ў нас роўныя правы мае чужая мова, гвалтоўна прынесеная сюды заваёўнікам, з мовай карэннай — рэпрэсаванай, якую вякамі знішчалі. Дык няўжо ў такім выпадку гвалтаўнік-злачынца мае роўныя правы са сваёй ахвярай? Не зважаючы на гэта, у руху да «общечеловеческих ценностей» мы, здаецца, наперадзе ўсіх астатніх.

Пагляджіце на краіны суседняй Прыбалтыкі. Там усе карэнныя народы аб'ядналіся на ідэі свабоды і незалежнасці. Ім было вельмі цяжка, бо яны былі першыя. Расія, вядома, не любіць іх, але вымушана паважаць. Рахманая ж Беларусь паступова ператвараецца ў «транспартны калідор» і «пярэдні край» Расіі.

Дык чаму ж мы, беларусы, такія? Чаму мы танцуем на магілах сваіх продкаў, ды яшчэ і цешымся гэтым? Няўжо нашы продкі даўней таксама былі такімі? Не! Аб гэтым яскрава сведчаць шматлікія паўстанні беларускага народа супраць захопнікаў і прыгнятальнікаў. Беларускі гісторык М.Доўнар-Запольскі ў 1919 годзе пісаў пра нашых прадзедаў: «Жаданне збудаваць сваю дзяржаўную незалежнасць, уменне бараніць яе, жаданне дайсці да вольнага дэмакратычнага ладу — вось асноўныя рысы гістарычнай мінуўшчыны беларускага народа. І мы не ведаем другога славянскага племя, у якога гэта рыса выяўлялася б ярчэй, чымся ў нашых прашчураў».

У сістэме каштоўнасцей любой цывілізаванай краіны першае месца належыць патрыятызму. Гэта азначае, што родная дзяржава разглядаецца як вышэйшая каштоўнасць, што абавязак кожнага грамадзяніна — у добрасумленным служэнні сваёй дзяржаве.

На чым трымаецца патрыятызм? Адказ адназначны — на прыватнай уласнасці, на гістарычнай памяці і нацыянальнай мове, на бескарыслівай любові да роднай зямлі і не культуры. У сувязі з гэтым лічу, што «савецкі патрыятызм» абавязкова і непазбежна павінен саступіць месца нацыяналізму. «Нацыяналізм» — гэта зусім не сінонім нацызму і фашызму, а сінонім высакароднага паняцця «патрыёт». Усе рэспублікі былога СССР і ранейшыя савецкія сатэліты Усходняй Еўропы ўжо дайшлі да гэтага. Але ў «Камуністычным Вандэі» — Беларусі — становішча, як вядома, іншае. На маю думку, тут немалую ролю адыгрывае тое, што за 70 з гакам гадоў уласнай савецкай гісторыі было зроблена вельмі мала для выхавання сапраўднага патрыятызму ў грамадзян. «Сацыялістычныя пераўтварэнні» паслядоўна знішчалі ў нас карані нацыянальнай самабытнасці.

Цяжкі ўдар па адраджэнні і фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў быў нанесены індустрыялізацыяй. Мала таго, што Беларусь ператварылася ў «сборочный цех Союза», у выніку чаго яе ўласныя эканамічныя інтарэсы былі падначалены інтарэсам суседзяў, мы ўвогуле ледзь не зніклі як нацыя.

Менавіта ў ходзе індустрыялізацыі і пасляваеннага ўзнаўлення гаспадаркі вёска пачала аддаваць сваю найбольш маладую, найбольш працаздольную частку насельніцтва — носьбітаў беларускай мовы, культуры, традыцый — у гарады. Адначасова пачалася ўзмоцненая русіфікацыя школы. Каб хутчэй стаць «гараджанінам», трэба было пазбавіцца «вясковай» мовы. Учарашнія сяляне ператвараліся ў маргіналаў — дэкласаваны, дэнацыяналізаваны элемент. Яны гублялі сялянскія традыцыі, уклад жыцця, а гарадскую культуру (у пераважнай большасці — не беларускую) не ўспрынялі. Адсюль — п'янства. Страшэнная навала, другі наш Чарнобыль. Калі б з прылаўкаў знікла малако і хлеб, то гэта наўрад ці выклікала б сацыяльны ўзрыў, а вось каб знікла спіртное... Балюча бачыць, як ідзе дэградацыя нацыі. І ў гэты час я не чуў з вуснаў Прэзідэнта і парламентарыяў ніводнага слова аб згаданай праблеме.

Адной з важнейшых прычын нізкай нацыянальнай самасвядомасці беларусаў з'яўляецца і адсутнасць нацыянальнай інтэлігенцыі. Выхаваная на расійскай імперскай гісторыі, на расійскай культуры, яна на беларускай зямлі па-янычарску змагаецца з адраджэннем беларускасці! Ёй вельмі далёкія ідэі адраджэння нацыі. Таму адной з найважнейшых задач сённяшняга дзяржаўнага будаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, на маю думку, з'яўляецца стварэнне нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы. Задача гэта, вядома, будзе рэалізоўвацца не за год, не за два. Але ж паспяховыя яе вынікі, як нішто іншае, дапамогуць пазбавіцца нам свайго каланіяльнага мінулага, прымусяць, нарэшце, суседзяў лічыць нас за людзей.

**Юрый КЛІНЦОЎ, сябра Гомельскай абласной Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
Ў ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

## ЯКІ ЛЁС СТАРАДАЎНІХ МУЗЕЙНЫХ І БІБЛІЯТЭЧНЫХ ЗБОРАЎ НА БЕЛАРУСІ?

Беларусь, відаць, з'яўляецца адзінай краінай у свеце, краінай-выключэннем, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных на радзіме меней, чым за яе межамі. Прычынай таму ваенныя навалы, што хвалямі пракочваліся праз нашу зямлю, і драпежніцкая палітыка суседзяў.

Цяжка пералічыць усе тыя нацыянальныя багацці, што на працягу стагоддзяў былі вывезеныя з беларускай зямлі ў суседнія краіны. Тут і славутая нясвіжская калекцыя слуцкіх паясоў, і выданні Ф.Скарыны, і багатая калекцыя зброі і рыцарскіх панцыраў, і унікальны шкляны посуд з Налібоцкай мануфактуры, што апынуліся ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве, і кнігі з нясвіжскай і полацкай бібліятэк, вывезеныя ў Пецярбург, і славутая бібліятэка І.Храптовіча са Шчорсаў, якую ў Першую сусветную вайну склалі ў часовы дэпазіт у Кіеве, і тысячы скрыняў з каштоўнасцямі (старадаўняй бронзай і срэбрам, мармуровымі барэльефамі і статуямі, карцінамі старых майстроў, рэдкімі рукапіснымі кнігамі і гравюрамі, дзівоснымі дыванамі і габеленамі, калекцыямі зброі і манет фарфору і фаянсу), адпраўленымі з Менска ў Варшаву, Кракаў, Познань ды іншыя польскія гарады ў 1920 годзе.

Найбольш беларускіх кніг, рукапісаў, карцін, іншых музейных экспанатаў было вывезена — на захад і на ўсход — у часе Другой сусветнай вайны. Бясследна загінулі (кажуць, што пасля прагляду Берыі) бясцэнныя скарбы Магілёўскага абласнога музея і сярод іх найпершая нацыянальная рэліквія — крыж Ефрасінні Полацкай. У Германію і Аўстрыю трапілі асноўныя зборы Менскага і Баранавіцкага музеяў. Далёка не ўсе яны вярнуліся назад. А некаторыя з іх трапілі ў сховішчы Расіі. Так здарылася, напрыклад, са старажытнымі каменнымі выявамі жанчын («бабамі»), якія да вайны знаходзіліся ў Менску, у вайну ўпрыгожвалі адзін з паркаў Берліна, а пасля зніклі ва ўсходнім кірунку.

І пасля Другой сусветнай вайны працягвалася рабаванне нашых культурных скарбаў. Так, некалькі дзесяткаў найкаштоўнейшых карцін з нясвіжскіх калекцый Радзівілаў былі ў строгай таямніцы падараваныя савецкім урадам польскаму ўраду Берута. У Маскву траплялі манетныя скарбы, знойдзеныя ў нашай зямлі. Ленінградскія і маскоўскія экспедыцыі вывозілі каштоўныя археалагічныя знаходкі і рэдкія старыя кнігі.

Асобна трэба сказаць пра лёс Віленскага беларускага музея імя І.Луцкевіча, зборы якога налічвалі блізу 75 тысяч экспанатаў. Пасля яго ліквідацыі ў 1945 годзе большасць іх, у тым ліку Статут 1588 года, Біблія Францішка Скарыны, багатыя калекцыі старажытных грамат, пячатак, гравюр, картаў, слуцкіх паясоў, жывапісу, зброі, апынуліся ў літоўскіх музеях і бібліятэках — Гістарычна-этнаграфічным музеі, Дзяржаўным мастацкім музеі (і яго філіяле — Карціннай галерэі), Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук ЛССР і Дзяржаўным мастацкім інстытуце. Цяпер віленскія беларусы робяць намаганні, каб аднавіць тварэнне братоў Луцкевічаў на ранейшым месцы — у Базыліянскіх мурах.

Адам МАЛЬДЗІС.

Замежжа

***У гэтым годзе ўрад суседняй Польшчы плануе выдаткаваць на падтрымку польскай дыяспары ў Беларусі суму, эквівалентную шасці мільёнам долараў — пачуў я па радыё. А ці можа Беларусь пахваліцца падобным клопатам аб сваіх суайчынніках за мяжой? Як увогуле адбываецца падтрымка беларусаў замежжа і які яе плён?***

***Аб адным з аспектаў гэтай праблемы я даведаўся ад Аляксандра Сасновіча — галоўнага спецыяліста ўпраўлення навучальных і навучальна-даследчых устаноў Міністэрства адукацыі. Падчас гутаркі я пачуў ад свайго суразмоўцы наступнае:***

# Ці апалячаць беластоцкіх беларусаў?

*(Прызнанні беларускага місіянера)*

— Перакананы, што сваю нацыянальную прыналежнасць чалавеку дазваляе не толькі мова ці месца жыхарства, але і культурная спадчына, песні, музычны фальклор. Адсюль — мая зацікаўленасць беларускай народнай музыкай. Адсюль і разуменне неабходнасці яе адраджэння ў асяроддзі этнічных беларусаў, незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Тым больш, што тут, у Беларусі, фальклор захаваўся ў сваім першасным, аўтэнтычным выглядзе, чаго не скажаш, прыкладам, пра фальклор Беласточчыны на тэрыторыі Польшчы, стан захавання якога значна пагоршыўся, паколькі занепадае родная мова і нацыянальная свядомасць тамтэйшых беларусаў, — у значнай меры па віне былога ўрада БССР. У выніку нармальнай з'явай на Беласточчыне стала тое, што ў конкурсе беларускай песні, які адбываецца штогод, удзельнічаюць дзеці, якія спяваюць з паперкі беларускія песні, запісаныя лацінскім алфавітам. Мовай беларусаў Польшчы, за выключэннем актывістаў розных арганізацый, робіцца польска-беларуска-расійска-украінская трасянка...

Калі гаварыць менавіта пра адукацыю польскіх беларусаў, дык яна зведзена да мінімуму прадметаў, якія вывучаюцца на роднай мове. Навучальныя ўстановы — пачатковыя школы, даюць магчымасць вывучаць мову толькі факультатыўна, па жаданні навучэнцаў і іх бацькоў. Што да ліцэяў у Гайнаўцы і ў Бельску, дык беларускімі яны называюцца па традыцыі; афіцыйная іх назва — ліцэі з беларускай мовай навучання. Але ж больш слушна было б сказаць — з вывучэннем беларускай мовы, бо яна там гучыць выключна на ўроках. Месца ў прагараме яна займае прыблізна столькі ж, колькі і расійская, на якой выкладаецца закон Божы. Выкладанне ж усіх астатніх прадметаў вядзецца на польскай мове. Па-польску гавораць між сабой амаль усе вучні і настаўнікі.

**— Але ж існуе і нейкае грамадскае жыццё?**

— Так, цяпер у Польшчы існуе шмат беларускіх арганізацый: студэнцкія, культурніцкія, палітычныя... Польскі ўрад аказвае ім дапамогу, але раней яна канцэнтравалася ў руках адзінага Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), а цяпер дзеліцца паміж усімі. І, зразумела, гэтых сродкаў не хапае. І вынікам гэтага стаў паступовы заняпад нацыянальнага жыцця польскіх беларусаў. Паступова яно зводзіцца да правядзення асобных мерапрыемстваў: фестывалю беларускай песні ў Беластоку і гмінных фэстаў, якія папярэднічаюць яму, — іх ладзіць БГКТ «Басовішча»-рокфестывалю Беларускага аб'яднання студэнтаў, ды яшчэ некалькіх драбнейшых акцый.

Але ж вядома, што менавіта фальклор захоўвае і свядомасць, і традыцыйную лексіку, і спосаб маўлення. Мая асабістая зацікаўленасць народнай музыкай і службовыя сувязі з суайчыннікамі замежжа і далі пачатак падзеям, пра якія пойдзе размова...

Увесну 1992 года адбылася мая сустрэча з прадстаўніком польскага БГКТ Віктарам Стахвюком. Навучальнымі ўстановамі культуры і мастацтва я займаўся ўжо тады і таму пацікавіўся, як ідуць справы на Беласточчыне. У адказ пачуў: музычная адукацыя развіта слаба — на гэта нестае сродкаў, дорага каштуюць інструменты, няма людзей, якія маглі б весці выкладанне па-беларуску. А патрэба ў гэтым ёсць. І ўзнікла ідэя: прадстаўнікам БГКТ дамовіцца з польскімі ўладамі аб стварэнні штатных месцаў настаўнікаў, на якіх працавалі б выкладчыкі з Беларусі. Да верасня 1992 года — пачатку новага школьнага года — мы меркавалі ўсё наладзіць.

Я сустрэўся з міністрам, з тымі людзьмі ў міністэрстве, ад якіх залежыць арганізацыя і фінансаванне гэтай справы. Было вырашана закупіць музычныя інструменты для беларускіх школ Польшчы і камандзіраваць туды нашых настаўнікаў. Міністэрства набыло 12 цымбалаў, 12 баянаў і акардэонаў, 9 піяніна — і гэта толькі напачатку. Але надышоў верасень, потым — кастрычнік і лістапад, але ніякіх звестак з Беластока мы не мелі.

Тады я патэлефанаваў Стахвюку і пачуў: у беларускім ліцэі ў Бельску-Падляскім усё вырашана, можна прыязджаць, каб заключаць адпаведнае пагадненне. Быў прызначаны дзень, але, прыехаўшы ў Бельск, я пачуў: дырэктар ліцэя ні аб чым не ведае. Беларускай школе пры ліцэі выкладчыкі музыкі не патрэбныя, ліцэю — таксама. Я апынуўся ў няёмкім становішчы: інструменты падрыхтаваны, але ўсё, што мы чулі падчас перамоваў з такой сур'ёзнай арганізацыяй, як БГКТ, аказалася фікцыяй. З гэтымі навінамі мне трэба было ехаць у Менск. Ужо потым высветлілася: у БГКТ адбыліся перавыбары, і Стахвюк там ужо не працуе, а новае кіраўніцтва арганізацыі ні аб чым не ведае — скардзіцца няма на каго.

Трэба падзякаваць людзям, якія мне тады дапамаглі, — і маім знаёмым у мястэчку Орля, у якіх я і пасяліўся (бо ж Таварыства мяне не чакала, а з нашых камандзіровачных пакой у гатэлі не аплаціш), і мясцовым актывістам беларускай Рады, якія адразу ж выйшлі на войта гміны Орля. У выніку менавіта ён вырашыў усе праблемы: дамовіўся са школай аб прыёме на працу выкладчыка музыкі і падшукаў для яго кватэру.

Я вярнуўся ў Менск і пачалася перапіска паміж Міністэрствам культуры, БГКТ і польскімі ўрадавымі арганізацыямі. У рэшце рэшт, 1 красавіка 1993 г. з БГКТ зноў паведамілі: усё зладжана, яны чакаюць настаўніка. Напачатку міністэрства скіравала туды мяне з жонкай. Так аказалася працэй, бо я выкладаю ігру на баяне і акардэоне, а яна — на цымбалах. Праз нейкі час меліся прыехаць яшчэ двое настаўнікаў — хормайстар і піяніст. Але, прыехаўшы на месца службы, я даведаўся: у Гайнаўцы — мястэчку, дзе знаходзяцца беларускія ліцэй і школа, — кватэры не знайшлося. Тут зноў дапамог войт гміны Орля, прапанаваўшы кватэру, але, зразумела, у суседняй з Гайнаўкай Орлі.

Потым высветлілася, што месца для настаўнікаў, якія меліся прыехаць праз пару месяцаў, папросту няма — іх ніхто не чакае.

Навучальны год скончыўся. А ў канцы жніўня мінулага года мы зноў атрымалі запрашэнне з гміны, у якой мы працавалі, нават з прапановай даплачваць нам тое, што не даплачваў урад.

Мы зноў прыехалі ў Гайнаўку ў верасні 1993 г., і галоўнай прычынай гэтага было жаданне працягнуць пачатую справу. Набраліся на дзіва вялікія групы вучняў — каля 30 асоб замест чатырох абавязковых. Дамовіліся з гмінай аб аплаце навучання, знайшлі фундатара, які аплаціў нашы штодзённыя паездкі з Орлі ў Гайнаўку. Але падышоў новы, 1994 год. І першага студзеня я пачуў: нашую працу ў школе мясцовыя ўлады аплачваць больш не могуць. А адзінае, у чым зацікаўлена гміна, — вядзенне груп музычнага фальклору ў мясцовым клубе. Так і атрымалася, што наступныя тры месяцы — студзень, люты і сакавік — мы працавалі бясплатна. Нешта змянілася, калі ў справу ўмяшаўся бацькоўскі камітэт, бацькі вучняў. Яны ўбачылі плён нашай працы, калі іхнія дзеці сталі пераможцамі рэгіянальных музычных конкурсаў — і гмінных, і ваяводскага. Школьнікі спявалі беларускія песні, выконвалі беларускую музыку... Мы чулі шмат добрых слоў ад іхніх бацькоў, ад выкладчыкаў. Затое мясцовыя ўлады і адміністрацыя беларускай школы ў Орлі цікавіліся нашай працай менш за ўсіх нават пасля таго, як з дапамогай міністэрства мы арганізавалі нашым вучням экскурсію ў Менск. Школьнікі былі гэтаму рады, а іхні дырэктар па-ранейшаму не звяртаў на нас увагі — і гэта адбывалася ў беларускамоўных навучальных установах! Адзінымі, ад каго мы чулі словы падзякі, былі дзеці.

**— Што, на Ваш погляд, стала прычынай сітуацыі, пры якой у Польшчы, нягледзячы на існаванне беларускіх школ і ліцэяў, беларускага друку і радыёпраграм, музея ў Гайнаўцы, працягваецца заняпад мовы?**

— Я нідзе і ніколі не чуў, каб нехта з прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Беласточчыны займаўся пытаннямі адукацыі. Сродкі — большыя ці меншыя — даюць ім урады Польшчы і Беларусі, але на што яны ідуць? Так, Гайнаўскі музей, які будаваўся так доўга, патрэбны. Але ці патрэбна будзе захаванне памяці аб беларусах Польшчы, калі самі яны перастануць існаваць як народ? А сітуацыя цяпер менавіта такая. Хто захоча і зможа змяніць яе? На справаздачным сходзе БГКТ я пачуў, што змяншаецца колькасць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову. Але ж ніхто не сказаў, чым, акрамя слоў аб неабходнасці вывучэння мовы, падтрымліваецца ў іх беларушчына! Бо навошта патрэбная мова, не падмацаваная культурнай спадчынай — каб адзін дзень у годзе, падчас правядзення ў гміне беларускага фэсту, пагаварыць па-беларуску?

Тое, ці могуць і хочуць беларускія арганізацыі Беласточчыны скарыстаць падтрымку свайго і нашага ўрада — гэта толькі іх праблема. Але існуе яшчэ адзін аспект іхняга жыцця: існаванне беларускай дзяржавы, яе аўтарытэт...

Мне давялося жыць і працаваць не з актывістамі нацыянальных арганізацый, а са звычайнымі людзьмі. Дык вось, для іх мы — грамадзяне Беларусі — па-ранейшаму застаёмся рускімі. І калі я называў сябе беларусам, тыя людзі часцей проста махалі рукой. Бо яны не ведаюць Беларусі — дзяржавы беларускага народа, краіны з самастойнай палітыкай. Думаю, што менавіта гэта — комплекс нацыянальнай ніжэйшасці, адчуванне сябе прадстаўнікамі народа без дзяржавы і ёсць прычына асіміляцыі польскіх беларусаў, слабасці іхніх арганізацый, абыякавасці іх да ўласнай культуры і мовы.

**— Польшча — дэмакратычная краіна. А дэмакратыя — улада народа — азначае абарону інтарэсаў большасці, у дадзеным выпадку — нацыянальнай. Ці не гэта, а не слабасць беларускіх арганізацый або адсутнасць іх падтрымкі намі стала прычынай паступовай асіміляцыі беларусаў Беласточчыны?**

— Асіміляцыя меншасці — натуральны працэс у кожнай краіне. І не варта абмяркоўваць нацыянальную палітыку польскіх улад, наадварот, магчыма, калі-небудзь яна паслужыць для нас прыкладам. Не буду гаварыць і аб тым, хто мае права, магчымасці і жаданне супрацьдзейнічаць асіміляцыі, — гэта не мая кампетэнцыя. Мая справа — вывучэнне і захаванне музыкі свайго народа, навучанне ёй іншых. Таму скажу адно: лёс беларускай культуры ў свеце вырашаецца тут, у нашай дзяржаве. Бо па-за яе межамі будучыню музыкі нашага народа вырашаюць не музыканты...

Запісаў У.ПАНАДА

ВЕДА

# Што Бог даў...

## Частка III. Века новае, а дзяжа старая

(Заканчэнне.)

**8. Азёры ў гісторыі нашага народа**

Азёры, асабліва вялікія, даўно прывабілі людзей. Вядомыя старажытныя паселішчы, што былі пабудаваны там на сваях. Назвы некаторых азёр — Святое, Святазер'е, верагодна, Свіцязь — нагадваюць, што там былі нейкія культавыя збудаванні. Назва аднаго з азёр трапіла і ў летапіс. Гісторыкам вядомае паведамленне старажытнага храніста пра тое, што літва паслала «старожу» на возера Зьята. Дзе яно знаходзілася, дакладна невядома. Што праўда, на сумежжы Івацэвіцкага і Пінскага раёнаў яшчэ нядаўна было балота Зьята. Верагодна, гэта і ёсць тое летапіснае возера, што было памежным паміж Турава-Пінскім і Навагарадскім княствамі. Менавіта туды пасылалі вартастарожу, якая набіралася з літвы — прафесійных, як цяпер гавораць, ваяроў.

**9. Азёры ў фальклоры і ў мастацкай літаратуры**

Хто з нас не дзівіўся, не зайздросціў грэкам, якія маюць, прыкладам, цудоўную «Іліяду». Але ці задумаўся хто-небудзь з нас, што і нашы прашчуры стварылі шэдэўры, якія не горшыя за «Іліяду». Прыгадаем тут хоць бы загадку, якая ў загалоўку гэтай часткі. Усяго чатыры словы, але ўсе — як перлінкі на шнурку. Не адразу я ўразумеў глыбокі сэнс гэтай загадкі, але пасля... І вы ўдумайцеся, як трэба было бачыць сутнасць прыроднай з'явы, як трэба было бачыць на глыбіню вякоў, каб не толькі ўявіць утварэнне возера, але і простымі — двума — словамі перадаць гэтую сутнасць. Не думаю, што і мне ўдалося да рэшты спазнаць філасофію гэтай загадкі. Памяркуйце і вы: чаму — *века*. Вада ўсё ж — не *века* (накрыўка). Магчыма, тут гаворыцца пра лёд на возеры? А што, калі аўтар загадкі так — адным словам *века* — сказаў, што вада — вечная?

**а) З нашых паданняў**

У адным з індыйскіх міфаў распавядаецца, як быў разбураны Трыпура — горад дэманаў. Іх правадыр, магутны асур Майя, не жадаючы падпарадкоўвацца багам, сваёй чарадзейскай моцай прымусіў Трыпуру праваліцца ў бездань. І ў нашых паданнях пра ўзнікненне азёраў Вялічкаўскага, Галотаўскага, Ліхайлаўскага, Светлага, Святога, Кромані, Свіцязі, Лобнага, Сіняга ды некаторых іншых распавядаецца, што напачатку на месцы гэтых азёраў былі вёскі, гарады, бажніцы. Але за нейкія грахі іх жыхары былі пакараны, або самі перад пагрозай няволі выпрасілі ў Бога «вечнае жыццё».

Узнікае пытанне, чаму нашы паданні і міфы далёкай краіны маюць падобны сюжэт. Прапануюцца такія варыянты адказу: 1. Беларусы і індусы маюць агульнае паходжанне ад так званых індаеўрапейцаў, якіх называюць арыямі. 2. Як вядома, некаторыя індыйскія вучоныя мяркуюць, што іх прашчуры прыйшлі ў даліну Інда з Поўначы. Яны прынеслі і згадкі пра паселішчы, што праваліліся ў бездань. 3. Хтосьці з нашых продкаў быў у Індыі ды прывёз адтуль сюжэт для паданняў пра ўзнікненне азёраў. Добра было б, каб хто-небудзь з чытачоў напісаў і пра сваё меркаванне.

**Заданне**: Запішыце паданне пра возера вашай мясцовасці і прышліце яго ў рэдакцыю «Нашага слова».

**б) З беларускамоўнай мастацкай літаратуры**

Незабыўны наш Уладзімір Караткевіч, як згадвалася, быў зачараваны азёрамі роднага краю. Адно з яго цудоўных эсэ — «Званы ў прадонні азёр» — апявае прыроду і гісторыю Палесся. Напэўна пад уздзеяннем прыгажосці ляснога прынёманскага краю ўзнікла і апавяданне «Над Кроманню» акадэміка Івана Пятровіча (больш вядомага пад псеўданімам Янка Нёманскі), на жаль, расстралянага ў 1937 годзе. У той жа год у Заходняй Беларусі была надрукавана паэма «Нарач» нашага славутага паэта Максіма Танка. Гэта быў паэтычны водгук на так званае паўстанне нарачанскіх рыбакоў, якіх польскія ўлады пазбавілі спрадвечнага права лавіць рыбу ў самым вялікім возеры нашай краіны.

Нарач часта называюць беларускім морам. Ды ў нашай літаратуры вядомы твор, у назве якога ёсць слова мора — гэта раман Паўла Місько «Мора Герадота», дзе апавядаецца пра партызаншчыну на Палессі, дзе, як ведаеце, было «Пінскае возера», якое, магчыма, хтосьці і назваў Герадотавым морам або морам Герадота. (Ці раўназначныя гэтыя словазлучэнні?)

**в) З польскамоўнай нашай літаратуры**

Пра Міцкевічаву зачараванасць Свіцяззю ўжо ведаюць усе, як і пра аднайменную баладу. Падобны твор ёсць і ў Яна Чачота, Адамавага сябра. Што да задумы твора, то Чачот пісаў:

*Мне слова яго, як бальзамам,*
*Душу ажывіла. Прызнацца*
*Рыфмую і я, ды з Адамам*
*Мне ў гэтым усё ж не*
*зраўняцца...*

Таму і сюжэт Чачотавай «Свіцязі» адметны: Тамаш прадаў душу д'яблу за грошы і купіў нават горад Свіцязь. Але «адплата прыйшла за былое»:

*Пад горадам ходарам ходзіць*
*зямля ўся,*
*І вось пад стыхіі напорам,*
*Бы крыга лядовая, убокі*
*раздаўся*
*І ў бездань ляціць Свіцязь-горад!*
(Пераклад Кастуся Цвіркі.)

Яшчэ адно возера ўслаўлена нашым пісьменнікам.

Колькі гадоў таму беларускія чытачы пазнаёміліся з яшчэ адным польскамоўным творам нашай літаратуры, які пераклаў Мікола Хаустовіч. Кнігу Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» параўноўваюць з славутым казачным эпасам «Тысяча і адна ноч». Вось як распавядае аўтар пра свайго героя: «Дзядзька мой пан Завальня, досыць заможны шляхціц на загродзе, жыў у паўночным і дзікім баку Беларусі. Яго сядзіба стаяла ў чароўнай мясціне. На поўнач паблізу жылля — Нешчарда, велізарнае возера накшталт марской затокі. Калі ўсходзіцца вецер, ад возера плыве роўны шум і відаць праз вакно, як пакрытыя пенаю хвалі падымаюць угору і зноў кідаюць уніз рыбацкія лодкі...»

Склаў Здзіслаў СІЦЬКА.

ВУЧЫМСЯ

# «Бляха - жесть!..»

Культура мовы

Ну, як назва, як назоў! «Самабытны»? «Адметны»? Але, прызнаюся, не я яго прыдумаў. Аўтары — мае калегі з радыё. Гэта яны, перадаючы рэкламу ці якое паведамленне на будаўнічую тэму, так гавораць. Спачатку скажуць бляха, а затым «жесть». А гучыць у эфіры: «бляха-жесть».

Я разумею сваіх калегаў. У іх нейкая нямкасць за родную мову, бо ў расійскай мове «бляха» — гэта лаянка. Значыцца, яны пачуваюць нібы віну за беларускую мову. А другі іхні клопат — патлумачыць, што яны не мацюкаюцца, а размову вядуць пра «жесть».

Вось атрымоўваецца такая пачвара. Але, паўтараю, не я яе прыдумаў, не я яе пусціў у свет. Я яго толькі адчуў. Адчуў, як глумяцца з мовы, з мяне, носьбіта гэтай мовы, можа і самі гэтага не хочучы.

Падумаем, можа і сапраўды з словам «бляха» ёсць клопат? Можа яно і напраўду не дужа эстэтычнае? Цікава, якая яго гісторыя? Этымалогія? Як у іншых мовах перадаецца? Часам гістарычны экскурс усё ставіць на сваё месца... Можа б мовазнаўцы-вучоныя выказаліся з гэтай нагоды? І не толькі пра бляху, бляхара, але і пра розныя «устройствы», «цялесныя пашкоджанні», «ушчамленні», «уроны»...

Паміж іншым, «бляха-жесть» не адзіны перл Беларускага радыё. А апошнім часам можна з іхніх перадач пачуць: цырата — клеёнка, паркаль — ситец. Дзе гэта гаворыцца праз злучок, дзе праз каментар: «паркаль» — па-руску ситец...» І ва ўсім гэтым нейкае нядбальства, нейкае расхістванне мовы, прыніжэнне і мовы, і народа, і саміх сябе. Даўней на гэта Беларускае радыё не хварэла.

А што да бляхі, дык у Багушэвіча чытаем:
Глядзі: касцёл аж да неба,
Валасць бляхамі пакрыта.

Усё зусім зразумела, і не аднаму пакаленню беларусаў. А вось напрыканцы дваццатага стагоддзя ўжо маем бляху-жесть! Паміж іншым «Дайнова» рэкламуе «ліст даховы», мабыць, маючы на ўвазе якраз бляху. Можа гэта і ёсць выйсце з таго моўнага цэйтнота, у якім знаходзіцца Беларускае радыё. То чаму б не пакарыстацца ўжо напрацаваным? — раз гэта вымагае наша двухмоўе, рознае ўспрыняцце нашых слоў беларусам і расійцам.

Уладзімір СОДАЛЬ.

ХАЧУ ВЕДАЦЬ

# Паследкі?

Хацелася б, каб у вашай патрэбнай і цікавай газеце больш увагі надавалася злабадзённым, спрэчным пытанням нашай мовы.

Хачу прапанаваць пашукаць разам з вамі, шаноўныя супрацоўнікі, а таксама з чытачамі пераклад на беларускую мову слова «последствия». Яно з'явілася ў нашым жыцці разам з чарнобыльскай бядой.

У друку, на радыё ўсталяваўся такі моўны рад: *вынікі — наступствы — паследкі*. Так, чытаем у «Звяздзе»:

1. *Многія раёны рэспублікі забруджаны радыеактыўнымі ізатопамі, якія выпалі ў* ***выніку*** *аварыі на ЧАЭС.*

2. *Утворана Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад* ***вынікаў*** *чарнобыльскай катастрофы.*

3. *Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб сумесных дзеяннях у 1994 годзе па мінімізацыі і пераадоленні* ***вынікаў*** *чарнобыльскай катастрофы.*

4. *Гэта кампенсуе нам урон ад чарнобыльскіх* ***наступстваў****.*

5. *...палітычны авантурызм, з вельмі нядобрымі* ***паследкамі****.*

У пэўных кантэкстах (1-ы прыклад) «вынікі» могуць задаволіць перакладчыка. А вось у 2-м і 3-м — «абараніць ад вынікаў», а тым больш «пераадолець вынікі катастрофы», на маю думку, не маюць сэнсу, бо як можна, скажыце, абараніць людзей ад вынікаў ці пераадолець вынікі? А яшчэ пішуць — ліквідаваць іх (вынікі)!

Вынікі (рэзультаты) аварыі на ЧАЭС былі зафіксаваны ў пэўны час і такімі ўвойдуць у гісторыю, будуць адбівацца на нашым жыцці, пакінуць чорны след аб сабе.

Дык, можа, ад гэтых «слядоў» і трэба адштурхоўвацца дзеля адшукання перакладу слова «последствия».

Дарэчы, такі выдатны майстра слова, як Ніл Гілевіч, ужо ў тыя часы (1986 год) ужыў выраз ***паследкі аварыі***, адчуў сувязь са «слядамі»?

У гэтым значэнні *паследкі* ўжывае на радыё і журналістка Надзея Чэрня. А вось цікавы падыход да гэтай тэмы Ул.Юрэвіча, які ў радыёперадачы «Жывое слова» 25 лістапада 1994 г. таксама выказаўся супраць штучнага і пазычанага з польскай слова «наступства» і за «паследствы» — ад «сляды».

Зусім слушна. Сапраўды, не трэба шукаць таго, што ўжо ёсць. Словы «паследкі», «паследствы» вельмі дакладныя ў выразе «ліквідацыя паследкаў аварыі». Ну не ліквідацыя ж вынікаў?! У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (хоць ён ужо і састарэў) паследкі — рэшткі, астаткі. Нават такое тлумачэнне можа задаволіць: *пераадолець паследкі (рэшткі), ліквідаваць паследкі, абараніць ад паследкаў аварыі* можна і неабходна.

В.БРАЗОЎСКАЯ.

ЖЫВОЕ СЛОВА

# Гегу прыдумалі нашыя продкі

У артыкуле «Слову 5000 гадоў?» Міхася Маліноўскага («НС», № 21 за 1994 г.) разглядалася «беларускае» слова «гега», якое «мае на беларускай зямлі каля 3,5—5 тысяч гадоў». Праблему ўзросту слова закранаць не буду, а да азначэння «беларускае» хацелася б даць некаторыя каментары. Перш звернемся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». У артыкуле «Гега» (дарэчы, слова падаецца з абодвума «г» выбухнымі) чытаем: «...Мяркуюць, што гэта магчымае запазычанне (з варыянтам *дзега*) з літоўскай мовы. Параўн. літоўскае dẽgti, dẽginti 'паліць', dẽgas, dẽgalas 'галавешка, кнот'. Думаецца ўсё ж, што не меншая доля верагоднасці ёсць у тым, што **гэтае слова не пазычанне, а субстратная з'ява**. Але ў любым выпадку слова «гега» не можа быць славянскім, бо, калі сцвярджаць пра яго індаеўрапейскае паходжанне (гл. артыкул), то як растлумачыць, чаму пасля выдзялення праславянскай мовы з праіндаеўрапейскай у слове захавалася спалучэнне заднеязычнага «г» з галосным пярэдняга раду «э»? Пераўтваранае ў выніку дзеяння 1-й палаталізацыі, гэтае спалучэнне павінна было надаць слову форму «жега». Вось тут ужо мы бачым знаёмы славянскі корань (параўн. рас. *жечь, обжиг*).

Але калі ўлічыць, што балцкі субстрат стаў адным з фактараў фармавання беларускай народнасці, то ўмоўна слова «гега» назваць беларускім можна.

Валеры ВАРАНОВІЧ.
г.Гродна.

Мікалай КРЫЎКО, Алена ШЧУКА

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕ́КЛА** (паводле рэлігійна-містычных уяўленняў — месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памёршых грэшнікаў) *[Аленка:] З навін нашага сяла можна яшчэ адзначыць, што памёр дзед Трондзель. Перад смерцю казаў, што калі апыніцца на тым свеце, то першым дзелам пацікавіцца, ці ёсць там рай і пекла* (Колас). *У другіх паездках было лягчэй, а тут мы намучыліся, як грэшныя душы ў пекле* (Караткевіч), **АПРАМЕ́ТНАЯ** *Нябожчыкі-грэшнікі вечна пакутуюць у апраметнай* (Бядуля). *— А вы, бацюшка, — перабіў яго Андрэй, — у Чыжэвічы да свае Юлькі ўсё яшчэ па лёдзе ходзіце ці праз мост? Па лёдзе цяпер страшна, праваліцеся ў апраметную* (Чарнышэвіч), **ГЕЕ́НА** кніжнае (паводле рэлігійных уяўленняў — частка апраметнай, дзе грэшнікаў мучаць полымем, падсмажваюць на агні) *«Туз падвёў, гары ён геенай вогненнай», — прыпамінае поп тую злашчасную карту* (Пальчэўскі). *Не думалі, не гадалі, што з адной геены вогненнай у другую трапім* (Татур), **ТА́РТАР** кніжн. *Ён [Алесь] хоча паказаць чалавека ў сутыкненні з фашызмам, хоча перадаць стан чалавека, які трапіў у сапраўдны тартар* (Пішчыкава), **ТАРТАРАРЫ́** размоўнае, жартаўлівае *— Пайшоў ты к д'яблу! — вылаяўся ў думках Рыбак. — І наогул хай усё ідзе к д'яблу. У тартарары. Навек!* (Быкаў). *Скляпенне рухне ўсё! Пастой, — Чаму ж я без пары Пад рогат бездані пустой Лячу ў тартарары?!* (Гаўрусёў).

**Пекла. Hell, Hades, Gehenna, Tartarus.** З гэтых сінонімаў да беларускага слова **пекла** адзіным агульнаўжывальным словам з'яўляецца **hell**. Усе астатнія сінонімы — словы кніжныя (якія, паміж іншым, заўсёды пішуцца з вялікай літары). Нельга не заўважыць падабенства такіх беларускіх і англійскіх словаў, як **геена** і **Gehenna**, **тартар** і **Tartarus**, што сведчыць пра іх агульнае паходжанне з грэцкай мовы.

**ПЕРААДО́ЛЕЦЬ** (аказацца пераможцам у барацьбе з якімі-н. цяжкасцямі, перашкодамі, з чым-н. небяспечным і пад.) *— Распытайце Паходню — у яго памяць на гэта добрая, — і ён вам раскажа, колькі нам цяжкасцей давялося пераадолець, пакуль, як вы кажаце, мы сталі на ногі* (Хадкевіч). *Але гора жыло побач з самаахвярнасцю дзеля святой справы, побач з рашучасцю пераадолець усе выпрабаванні* (Кулакоўскі), **АДО́ЛЕЦЬ** *[Бобрык:] — Калі чалавек ведае, што ідзе да вялікай мэты, то якая б ні была цяжкая дарога, ён не спыніцца, адолее ўсё* (Дуброўскі). *Гэта ж толькі пачатак нябачаных мук... Як іх толькі адолець і як іх цярпець?* (Дубоўка), **ЗДО́ЛЕЦЬ** і **ЗДАЛЕ́ЦЬ** *Мілая моладзь, слаўная моладзь Нашай бязмежнай краіны! Горы і мора можаш ты здолець, Сэрцам расплавіць ільдзіны* (Купала). *Але ўсё здалелі раці занядбалых. Пройдзен шлях пачэсны, трудны і вялікі* (Колас), **ПЕРАМАГЧЫ́** *А людзі працавалі ў калгасе, перамаглі нястачы, ужыліся, адбудаваліся і выхавалі дзяцей* (Дуброўскі). *Цяпер не стрымаеш арла маладога. Адолее ён, пераможа нягоды... Так юнага кліча ў бясстрашша дарога, Любоў дарагое зямлі і народа* (Дзеружынскі), **АСІЛІЦЬ** *Будзе цяжка — мы асілім, Будзе трэба памерці — памром. За Радзіму, што нас узрасціла, За бацькоў і за родны свой дом* (Астрэйка). *Асілю перавалы І ўсю пякельнасць мук, Каб толькі ты прайграла Загар пяшчотных рук* (Свірка), **ПЕРАСІЛІЦЬ** *І жанчыны плакалі. Плакалі аб сваіх немаведама дзе забітых і пахаваных. І, здаралася, забіралі калек да сябе, абмывалі, саграваалі, памагалі перасіліць гора* (Каршукоў). *Чалавек сам павінен перасіліць гора. Старонняя спагада часам толькі сыпле соль на раны* (Сапрыка), **АДУ́ЖАЦЬ** *Мне адужаць напасці, Мне стыхію скарыць. За сапраўднае шчасце Па-сапраўднаму жыць* (Лукша). *Як дуб магутныя, адважныя як зверы, адужалі ў лясох суровае жыццё* (Геніюш), **ПЕРАДУ́ЖАЦЬ** *Мы нібы перадужалі цяжкую перашкоду, якая раздзяляла, і цяпер зблізіліся, зрадніліся* (Шамякін). *Але Тодар з гэтым ніяк не мог пагадзіцца. Яму ўсё яшчэ думалася, што сабака ачуняе, перадужае сваю хваробу* (Ляўданскі), **ЗДУ́ЖАЦЬ** разм. *Усё пазбудзецца, усё — нішто, Абы змагчы бяду і гора здужаць* (Глебка), **ЗМАГЧЫ́** разм. *Сутарэнняў бяду Зможам грудзьмі маладымі* (Танк), **СХО́ДАЦЬ** разм. *Але бяды не сходаў, Бо вочы выеў дым. Ён жыў даўно, твой продак, Схіліся перад ім* (Пужанін), **СПРА́ВІЦЦА** *з чым Цяпер папярхнуўся я. Але мне самому ўдалося справіцца са сваёю ліхтугай* (Васілёнак). *— Незакончанае трыванне:* **Пераадо́льваць, адо́льваць, здо́льваць, перамага́ць, асільваць, перасільваць, аду́жваць, перадру́жваць, зду́жваць, змага́ць, схо́дваць, спраўля́цца**.

**Пераадолець**. Гэтаму вялікаму сінанімічнаму гнязду ў беларускай мове, у якім значную частку складаюць прэфіксальныя дзеясловы, у англійскай мове існуе шэраг адпаведнікаў, такія, як **overcome, manage, cope, make it, do it, get there**. З іх толькі адзін дзеяслоў — **overcome** таксама прэфіксальнага ўтварэння (у сучаснай англійскай мове наогул мала прэфіксальных дзеясловаў неіншамоўнага паходжання). Астатнія сінонімы — альбо простыя дзеясловы (manage, cope) або спалучэнні (make it, do it, get there), характэрныя для размоўнага стылю.

**ACADEMIA «НС»**

Гісторыя беларускага пісьменства

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ,
кандыдат гістарычных навук

# Дакірылічнае пісьмо на Беларусі

На дастаткова высокім узроўні цывілізаванасці грамадства ўзнікае патрэба перадаваць думкі праз бар'еры адлегласці і часу. Найбольш даступным сродкам такой перадачы інфармацыі з'яўляецца пісьмо, яно ўзнікла там, дзе ўжо існуе дзяржава, або там, дзе мелася ўплывовая праслойка жрацоў.

Найбольш раннімі знакамі пісьма былі спалучэнні прымітыўных малюнкаў, якія перадаюць умоўна толькі сэнс выказванняў, без падзелу на словы і тым больш без адлюстравання складу мовы. Такі від пісьма называецца піктаграфічным, ён існаваў яшчэ ў першабытным грамадстве. Пазней узнікае ідэаграфічнае пісьмо, калі знак перадаваў асобнае слова. Ідэаграфічнае пісьмо, мала звязанае з фанетыкай мовы, было зручным для этнічна неаднародных дзяржаўных утварэнняў. Трэці від пісьма — складовае, калі асобны знак абазначае пэўны склад, яно мае менш знакаў, чым ідэаграфічнае. Да складовых належаць старажытныя сістэмы пісьма ўрартцаў, шэрага заходнесеміцкіх і эгейскіх народаў, сучасныя пісьмовасці хіндзі, бірманцаў і г.д. Ёсць і пераходны тып паміж гэтымі двума — слоўна-складовае пісьмо, калі захоўваецца спалучэнне слоўных і складовых абазначэнняў. Да такога тыпу адносяцца пісьмовыя сістэмы старажытных шумераў, егіпцянаў, хетаў, крыцянаў і сучасных кітайцаў (у апошніх яно бярэ вытокі з сярэдзіны II тысячагоддзя да Хрыстовага нараджэння). Большасць жа сучасных сістэмаў пісьма літарна-гукавыя, або фанетычныя, калі асобным знакам перадаецца кожны гук. Упершыню фанетычнае пісьмо з'явілася ў фінікійцаў (тэрыторыя цяперашняга Лівана), адкуль прыблізна ў IX стагоддзі да Х.н. было пазычана грэкамі. У розныя часы на аснове грэцкага алфавіту склаліся лацінскі і кірыліца, а таксама шэраг іншых алфавітаў.

Акрамя кірыліцы, у старажытных славянаў некаторае распаўсюджанне меў яшчэ адзін алфавіт — глаголіца, якая, аднак, не мела вялікага пашырэння (за выключэннем Харватыі) і часцей выкарыстоўвалася як тайнапіс. Пакуль невядома, які з гэтых алфавітаў быў вынайдзены Кірылам і Мяфодзіем.

Самым старажытным помнікам кірылічнага пісьма на тэрыторыі племяннога саюза крывічоў лічыцца надпіс «гороухша» (магчыма, абазначэнне гарчыцы) на глінянай пасудзіне першай чвэрці Х стагоддзя з курганоў пад Смаленскам. Аднак ёсць падстава меркаваць, што пісьмо ў нашых продкаў існавала і да распаўсюджання кірыліцы. Дастаткова высокі ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця насельніцтва Беларусі ў I тысячагоддзі пасля Х.н., узнікненне першых дзяржаў — племянных «княжанняў» стварылі перадумовы для ўжывання сістэмы запісвання інфармацыі. У канцы IX стагоддзя балгарскі аўтар чарнарызец Храбр паведамляў пра славянаў да іх хрышчэння: «Прежде убо словене не імеху книг, но чрьтами и резами чьтеху и гадааху» (г.зн. славяне яшчэ не мелі кніг, але пры дапамозе «чэрт і рэзаў» чыталі і гадалі). Ужо ў наш час, абапіраючыся на звесткі пра даволі інтэнсіўныя славяна-ірландскія кантакты ў раннім сярэднявеччы, маскоўскі гісторык Апалон Кузьмін прапанаваў гіпотэзу, што «чэрты і рэзы» — гэта не што іншае, як ірландскі агамічны алфавіт (які па знешнім выглядзе якраз адпавядае такім назвам).

Нямецкі біскуп Тытмар Мерзебургскі (976—1018 гг.) сярод іншых звестак пра палабскіх славянаў паведамляў, што ў паганскім храме горада Рэтры ён бачыў славянскія стоды, на кожным з якіх асаблівымі знакамі было абазначана імя.

На карысць меркавання пра наяўнасць у славянаў свайго дахрысціянскага пісьма могуць сведчыць лінгвістычныя звесткі. На думку мовазнаўцаў, яно запазычана са старажытнапаўночнагерманскага kenning — «знак, мета» і ў старажытнасці абазначала «літары», «грамата», «пісьмо». Тое ж можна сказаць пра тэрмін «буква». Старaславянскае «боукы», «боукъве» — літара, мн.л. «боукъвы» — «пісьмо», «кніга» — гэта пераафармленае гоцкае boka — «літара», мн. лік bokas — «кніга, пісьмо». Верагодна, паходзіць гэта ад назвы бука, на дошчачках з якога першапачаткова наносілі знакі пісьма. Інтэнсіўныя ж кантакты славянаў з готамі адносяцца да III—V стст.

*(Працяг будзе.)*

**Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»**

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Працяг.)*

*На рэчку човен ён пускае —*
*Няхай сабе тут намакае;*
*А там, управіўшысь з сяўбою,*
*Залье Антось яго смалою,*
*Агледзіць і заканапаціць,*
*А дзе і бляхаю прыхваціць.* (С.110).

**БЛЯХА**. Ням. Blech n с.-в.-ням. blёch, ст.-в.-ням. blёh (hh), ст.-паўн. blik n 'краты на шлёме' узыходзіць да bleich корань *blik з асноўным значэннем 'бліскучы' роднаснае Blick m 'бляск, ззянне'. Тая ж крыніца паходжання *bleichen* і *блехаваць* (адбельваць лён, палатно) (ЭСБМ).

*Ды перабраў тут дзядзька меру:*
*На слуп узбіўся, на халеру,*
*Ды так аб падлу штурхануўся,*
*Што свет яму перавярнуўся,*
*На брук зляцеў ён з тратуару,*
*Перакруціўся разоў пару*
*І так у брук бядак загасіў,*
*Траха манеркі не расквасіў.* (С.308).

.................................................

*Народ таўчэцца каля конкі,*
*Па бруку б'юць падковы звонка,*
*Грымяць павозкі, буды, колы,*
*Аж проста глушаць балаголы.* (С.305).

**БРУК**. Ням. Brücke f 'мост' ст.-в.-ням. brucka. Ёсць у іншых германскіх мовах, дзе азначае маставую не толькі з каменю, але і з дошак; швейцарскае brügi 'памост для сена, падлога з дошак у хляве, або вакол яго' і інш. Англасакс. brycgian 'масціць', ніж.-ням. stēnbrügge 'каменная маставая', 'брук', ст.-герм. *bruwi, *broŭ роднаснае ст.-балг. brŭvŭno 'бэлька'.

*Калі ўжо будуць ім канчаткі? —*
*Ён launpa ператрос і вугалочкі,*
*Як ёсць, аблазіў і куточкі;*
*Глядзеў за бэльку і ў пячуру,*
*Падняў такую шуру-буру,*
*Што хоць ты з хаты выбірайся*
*І тых «начатак» адцурайся.* (С. 163).

**БЭЛЬКА**. Ням. Balken m с.-в.-ням. balke, ст.-в.-ням. balko ёсць у іншых германскіх мовах. З франк. *balk у XIII ст. запазычана ў ст.-франц. і дало франц. bau 'папярочная бэлька перакрыцця'. Бліжэйшае роднаснае грэч. phálanx 'ствол дрэва'.

*Варстат, на часткі разабраны,*
*На трэскі кінуты, валяўся.* (С.50).

**ВАРШТАТ**. Ням. Werkstatt f Werkstätte f 'майстэрня', 'цэх'. Нямецкае слова складаецца з двух слоў Werk n мае шмат значэнняў 'справа', 'дзейнасць', 'праца', 'твор; завод, прадпрыемства', с.-в.-ням. wёrc(h), ст.-в.-ням. wёrc, wёrah(hh) у аснове ляжыць і.-е. корань *u̯erĝ 'рабіць, работа'.

Ням. Statt f Stätte f с.-в.-ням., ст.-в.-ням. stat 'месца'. З множнага ліку ўтварылася нов.-в.-ням. Stätte f. Ст.-в.-ням. stata f 'зручнае месца; момант, магчымасць, дапамога' узыходзіць да stehen 'стаяць', і.-е. st(h)ә-ti, ст.-інд. sthiti 'стан', грэч. stásis 'стан, становішча'.

*Антось на словы не зважае,*
*Бо ўласным вокам уздужае*
*Зямлі вартоўнасці спазнаці.* (С.284).

**ВАРТАСЦЬ**. Ням. Wert m с.-в.-ням. wёrt (d), ст.-в.-ням. wёrd n, m 'пакупная цана, каштоўны тавар, надзвычайны, важны', гоц. wairþn 'вартасць, цана'. Субстантываваны прыметнік wert 'варты'. З герм. запазычана ў ст.-слав. vrědŭ.

*(Працяг будзе.)*

**МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»**

Сымон БАРЫС

# Як у нас клічуць?

## Мужчынскія імёны

*(Працяг.)*

**Сіла**. Сила (лац.) — ад назвы вобласці ў Італіі, магчыма з грэч. — права ўладання. Вытв. Сілун, Сільчык, Сілка, Сілаш. Імя па бацьку — Сілавіч, Сілаўна.

**Сілан**. Силантий (лац.) — маўчальнік. Імяніны пр. 12.08. Імя па бацьку — Сіланавіч, Сіланаўна.

**Сільвестр**. Сільвесь. Сильвестр (лац.) — лясны. Разм. Сільвест. Вытв. Сальвесь, Сальвэсь, Селівесь. Імяніны: пр. 15.01; 8.05; 5.06; 11.10; кат. 26.11; 31.12. Імя па бацьку — Сільвестравіч, Сільвестраўна і Сільвесевіч, Сільвесеўна.

**Сінявок** (бел.). Вытв. Сінявік, Сінёк, Сінік. Імя па бацьку — Сінявокавіч, Сінявокаўна.

**Славамір**. Славомир (слав.) — слава міру, слаўце мір. Вытв. Славік, Мірык. Імяніны: кат. 17.05; 6.08; 5.11; 23.12. Імя па бацьку — Славаміравіч, Славаміраўна.

**Спартак**. Спартак (лац.). Імя па бацьку — Спартакавіч, Спартакаўна.

**Спірыдон**. Свірыд. Спиридон (грэч.) — кошык, магчыма, праз грэч. ад лац. spirius 'байструк'. Вытв. Спірыд, Спірыдка, Спірыдачка, Свірыд, Свірыдон, Свірыдка, Свірыдачка. Імяніны: 24.03; 12.04; 24.05; 6, 13.07; 10.09; 22.12. Імя па бацьку — Спірыдонавіч, Спірыдонаўна і Свірыдавіч, Свірыдаўна.

**Стась, Станіслаў**. Станислав (слав.) — станавіцца слаўным. Вытв. Стасік, Стаська. Імяніны: кат. 8.05; 5.08; 18.09; 13.11. Імя па бацьку — Стасевіч, Стасеўна і Станіслававіч, Станіславаўна, а таксама Станіславіч, Станіслаўна.

**Стах**. Стахий (грэч.) — колас. Вытв. Стахік, Сташка. Імяніны: пр. 13.11. Імя па бацьку — Стахавіч, Стахаўна.

**Стафан, Сцяпан**. Тефан (грэч.) — вянок. Вытв. Сцяпанік, Сцяпанка, Сцяпанька, Сцяпанюк, Сцёпа, Сцёпік, Сцёпка, Сцёпачка; Сцяпук, Сцепучок, Сцяпук, Сцёпушка. Імяніны: пр. 9, 17.01; 26.02; 10.04; 20, 30.05; 6, 25.06; 6, 16.07; 1, 15.08; 8, 9, 28.09; 17.10; 10, 29.11; 11, 22, 23, 28, 30.12; кат. Стэфан — 17.04; 16.08; 26.12. Імя па бацьку — Стафанавіч, Стафанаўна і Сцяпанавіч, Сцяпанаўна.

**Судзіслаў**. Судислав (слав.) — той, каму суджана слава. Вытв. Судзік, Судзісь, Судзяін, Імяніны кат. 7.07. Імя па бацьку — Судзіславіч, Судзіслаўна.

**Сымон, Сямён**. Симеон (яўр.) — які чуе. Симон (яўр.) — якога пачулі. Вытв. Сымонка, Сямёнка, Сямёнька; Сёма, Сёмка, Сёмачка, Сёмчык, Сёмышка; Сенік, Сеня, Сенька, Сенечка, Сеньчык, Сямаш. Імяніны: пр. 17.01; 8, 16, 26.02; 25.03; 18, 30.04; 23.04; 31.05; 6.06; 6, 13, 25.07; 3.08; 14, 25.09; 11.10; 7, 31.12; кат. 5.01; 18.02; 16.05; 18.07; 3.09; 28.10. Імя па бацьку — Сымонавіч, Сымонаўна і Сямёнавіч, Сямёнаўна.

**Сысой**. Сисой (яўр.) — шосты. Вытв. Сой, Соя. Імяніны: пр. 19.07; 10.09; 11.10; 6.11. Імя па бацьку — Сысоевіч, Сысоеўна.

**Сяргей**. Сергей (лац.) — высокі. Вытв. Сяргейка, Сяргіятка; Серга, Сярго, Сяргуля, Сяргуня, Сергунок, Сяргунчык, Сяргушка; Сярога, Сярожа, Сярожка, Сярожанька, Сярожачка, Сярожык; Серж, Сержык, Сержычак, Сяржук, Сяржучак. Імяніны: пр. 2.04; 1.06; 6, 11, 18.07; 24.09; 8, 20.10; кат. 9.09. Імя па бацьку — Сяргеевіч, Сяргееўна.

Вам, школьнікі!

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Сусветная літаратура ў школе

## VIII клас

# МІГЕЛЬ ДЭ СЕРВАНТЭС СААВЭДРА

(1547—1616)

## Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчаскі

*(Працяг. Пачатак у № 5.)*

Чатыры дні прайшлі ў роздуме, якое імя даць каню, таму што (на думку кабальера) няма ніякай прычыны, каб конь такога слыннага рыцара, як ён, не меў славутага імя, прычым імя павінна было паказваць, кім ён быў раней і кім стаў цяпер, а таму некалькі дзён ён вынаходзіў імя, перабіраючы, адкідваючы і састаўляючы нанова, каб паказаць, што з переменай становішча гаспадара мяняецца становішча каня, і прыдумаў нарэшце імя Расінантэ, вельмі гучнае і красамоўнае, бо калі раней конь быў проста кляча, дык зараз ён стаў першай клячай на свеце (гульня слоў rosin — кляча; ante — перад).

Так удала і з густам паіменаваўшы каня, ён вырашыў знайсці адпаведнае імя і сабе, над чым думаў яшчэ восем дзён, пакуль нарэшце не назваўся Дон Кіхотам, адкуль, як было сказана, аўтары гэтай праўдзівай гісторыі і робяць выснову, што яго сапраўднае прозвішча было Кіхада, а ніякі не Кесада, як гэта сцвярджаюць некаторыя. Аднак успомніўшы, што высакародны Амадзіс не задаволіўся проста імем, але дадаў да яго назву свайго каралеўства і бацькаўшчыны, каб праславіць іх, і назваўся Амадзісам Гальскім, наш кабальера захацеў, як сапраўдны рыцар, дадаць да свайго імя яшчэ і назву роднай мясціны і назваў сябе Дон Кіхотам Ламанчаскім, што, на ягоны розум, само гаварыла, хто ён, якога роду і з якога месца, апрача таго, ён думаў, што, дадаўшы да свайго імя назву роднага краю, тым ушануе яго. Такім чынам, пачысціўшы даспехі, зрабіўшы сапраўдны шлем з забралам, даўшы імя каню і перахрысціўшы сябе нанова, ён зразумеў, што не пашкодзіла б і яшчэ адно — знайсці даму, у якую б ён закахаўся, таму што вандроўны рыцар без кахання — гэта ўсё адно, што дрэва без пладоў і лісця, што цела без душы. Ён казаў сабе: «Калі мне за грахі мае цяжкія або добрай воляю лёсу ўдасца сустрэць якога-небудзь велікана, як гэта зазвычай здараецца з вандроўнымі рыцарамі, я звалю яго з першага разу або рассяку папалам, урэшце перамагу яго і прымушу здацца і прасіць літасці, ці так ужо дрэнна паслаць яго да маёй пяшчотнай каханай, каб велікан прыйшоў, укленчыў перад ёю і сказаў пакорлівым голасам: «Я велікан Каракульямбра, валадар вострава Маліндранья, пераможаны ў баі рыцарам (хай будзе ўхвалёна яго імя) Дон Кіхотам Ламанчаскім, які пасылае мяне да вас, каб ваша Вялікасць распараджалася мной па свайму разуменню». О, як захоплена прамаўляў гэтыя словы наш кабальера, асабліва калі знайшоў, каму быць ягонай дамай сэрца. Сталася так, што непадалёку, у суседнім сяле, жыла даволі прыгожая вясковая дзяўчына, у якую ён быў закаханы некаторы час, хаця, зразумела, яна пра тое не ведала, а таму і не звяртала на нашага ідальга аніякай увагі. Звалі яе Алоданса Ларэнса, і вось яна і падалася Дон Кіхоту прынаднай, каб стаць валадаркай дум ягоных, і, выбіраючы ёй імя, каб не надта рознілася ад сапраўднага, але было падобна да імя якой-небудзь прынцэсы, абазнанай сеньёры, ён прыдумаў назваць яе Дульсінеяй Табоскай, таму што была яна родам з Табоса, а імя, на яго думку, было мілагучнае, вытанчанае і значнае, як і ўсе астатнія, прыдуманыя ім імёны. (...)

**Раздзел VIII**

*Пра перамогу, якую атрымаў Дон Кіхот у жахлівай і дагэтуль нячутнай бітве з ветракамі, а таксама і пра іншыя падзеі, вартыя прыемнага ўспаміну.*

...Так згледзелі яны на полі трыццаць або сорак ветракоў, і Дон Кіхот прамовіў да свайго збраяносца:

— Лёс вядзе нас так, што лепей і жадаць не трэба, таму што бачыш там, удалечыні, сябра мой Санча, трыццаць ці болей вялізных волатаў, з якімі я думаю распачаць бойку і перабіць усіх, а іхняе дабро пусціць на нашае ўзбагачэнне, таму што гэта справядлівая вайна і вялікая паслуга Богу — сцерці з твару зямлі гэтае дурное семя.

— Якія волаты? — спытаў Санча.

— А вунь там, бачыш? — адказаў гаспадар. — Вунь яны, з даўжэзнымі рукамі, у некаторых даўжынёй па дзве лігі.

— Гляньце, ваша міласць, — адказаў Санча, — тое, што там віднеецца — ніякія не волаты, а ветракі, а тое, што падаецца рукамі, — крылы, якія круцяцца ад ветру і рухаюць жорны.

— Адразу відаць, што ты нічога не разумееш у прыгодах, — сказаў Дон Кіхот. — Гэта волаты, а калі ты баішся, дык ад'едзь убок і маліся, пакуль я павяду з імі жорсткую і няроўную бітву. І сказаўшы гэта, ён даў шпоры Расінанту, не звяртаючы аніякай увагі на крыкі Санча, які папярэджваў яго, што нападаць ён збіраецца на ветракі, а не на волатаў. Аднак рыцар быў цалкам упэўнены, што гэты волаты, а таму нават не бачыў, што перад ім, хаця быў зусім блізка ад ветракоў і крычаў:

— Стаіцё, баязлівыя і подлыя стварэнні! На вас нападае толькі адзін рыцар!

Гэтым часам падзьмуў лёгкі ветрык, і вялізныя крылы ветракоў пачалі рухацца. Дон Кіхот, згледзеўшы тое, закрычаў: «Нават калі б у вас было болей рук, чым у Брыарэя, вы не пазбегнеце расплаты!» І сказаўшы так, і аддаўшыся сэрцам пад абарону сеньёры сваёй Дульсінеі, Дон Кіхот закрыўся шчытом, выставіў дзіду і пагнаў Расінанта галопам да першага ветрака, але як толькі наш рыцар усадзіў дзіду ў крыло, вецер яе павярнуў з такім шаленствам, што яна разляцелася ў трэскі, а крыло спачатку падчапіла і каня, і ездака, а потым кінула іх вобзем. Санча кінуўся ва ўвесь асліны мах, а наблізіўшыся, убачыў, што гаспадар яго не можа паварушыцца, так моцна ён грымнуўся з Расінанта.

— Ратуй, Божа! — сказаў Санча. — Ці ж не казаў я, каб ваша міласць добра глядзела, што робіць, што гэта ўсяго толькі ветракі, а зблытаць іх мог толькі той, у каго ў галаве такія ж мелюць?

— Маўчы, сябра Санча, — адказаў Дон Кіхот. — На вайне абставіны мяняюцца, як нідзе інакай, і я думаю, што на самай справе гэты вучоны Фрэстон, які ўкраў у мяне кнігі разам з памяшканнем, ператварыў волатаў у ветракі, каб пазбавіць мяне слаўнай перамогі, вось як ён ненавідзіць мяне, але ўрэшце сіла ягонага злога майстэрства не ўстаіць перад сілай майго мяча.

— На ўсё воля боская, — сказаў Санча, памагаючы яму падняцца і сесці на ледзьве жывога Расінанта. І абмеркаваўшы нядаўнюю прыгоду, яны паехалі далей да цясніны Лапісэ, бо Дон Кіхот казаў, што не можа ўпусціць розных прыгодаў, якія чакаюць іх там, у такім ажыўленым месцы, засмучала яго толькі адсутнасць дзіды, і, сказаўшы пра тое збраяносцу, ён працягваў:

— Я ўспамінаю, што недзе чытаў, як гішпанскі рыцар Дыега Перэс дэ Варгас, зламаўшы ў баі свой меч, адламаў ад дуба вялізны тоўсты сук, такога нарабіў у той дзень і аддубасіў гэтулькі маўраў, што далі яму за гэта мянушку Дубас і нашчадкі ягоныя да гэтай пары носяць прозвішча Варгас і Дубас. Я табе гэта кажу да таго, што ад першага ж дуба, які мне трапіцца па дарозе, я адламаю сук такі вялікі, як і той рыцар, а з дапамогай таго сука я нараблю такіх подзвігаў, што ты палічыш за шчасце быць сведкам падзей, якія ў будучым пададуцца неверагоднымі.

— Усё ў руках Божых, — адказаў Санча, — я веру ўсяму таму, што кажа ваша міласць, толькі вам трэба выпрастацца, седзячы, бо ўсё вы неяк з'язджаеце набок, пэўна таму, што моцна ўдарыліся.

— Праўда твая, — пацвердзіў Дон Кіхот. — Я не кажу пра боль толькі таму, што ў вандроўных рыцараў не прынята скардзіцца на раны, хаця б праз іх і вантробы вылазілі.

— Калі так, то мне няма чаго сказаць, — адгукнуўся Санча, — але толькі Богу вядома, як бы мне хацелася, каб ваша міласць паскардзілася, калі ў вас што-небудзь забаліць. Што ж да мяне, то я буду стагнаць ад самага маленькага болю, зразумела, калі гэты закон не закранае збраяносцаў вандроўных рыцараў.

Дон Кіхот не прамінуў пасмяяцца з прастаты свайго збраяносца і абвясціў, што ён можа стагнаць колькі хоча і дзе хоча, з патрэбы ці без яе, бо да гэтай пары яму не даводзілася чытаць пра забарону на тое ў Рыцарскіх правілах. Санча сказаў, што пара і падсілкавацца. Гаспадар адказаў, што есці пакуль не хоча, а Санча хай сабе падхарчуецца. Атрымаўшы такі дазвол, Санча зручней уладкаваўся на сваім асле і дастаў з сумкі прыпасы; ён трушком ехаў за сваім гаспадаром і час ад часу так смачна сёрбаў з бурдзюка, што яму пазайздросціў бы нават самы спрактыкаваны карчмар з Малагі. І пакуль ён такім чынам рухаўся крок за крокам, глыток за глытком, то пазабываўся не ўсе абяцанкі Дон Кіхота, а пошукі нават самых небяспечных прыгод не падаваліся яму надта цяжкім заняткам. У выніку гэтую ноч яны правялі ў лесе пад дрэвамі, Дон Кіхот адламаў сухі сук і, прымацаваўшы да яго жалезны аканечнік, зрабіў сабе новую дзіду замест тае, што страціў у бойцы з ветракамі. Дон Кіхот не спаў усю ноч, думаючы пра сваю сеньёру Дульсінею, каб цвёрда трымацца правілаў, аб якіх ён прачытаў у кнігах і паводле якіх вандроўныя рыцары, праводзячы шмат начэй у пустэльнях і лясах, аддаваліся ўспамінам пра дам свайго сэрца. Санча Панса, які загадзя добра набіў каўбух, правёў ноч зусім не так і дзякуючы таму, што ежу ён запіваў не крынічнай вадой, соладка праспаў да самага рання, і каб гаспадар не разбудзіў яго, то спаў бы й далей, хоць сонейка свяціла яму проста ў вочы, а птушкі радасным шчабятаннем віталі новы дзень. Падняўшыся, ён паеў, зрабіў колькі глыткоў з бурдзюка і адзначыў, што пасудзіна вельмі пахудзела ад учарашняга, што даволі засмуціла яго, бо ў хуткім часе папоўніць каштоўны запас не было магчымасці. Дон Кіхот снедаць не захацеў, бо, як было ўжо сказана, харчаваўся аднымі салодкімі ўспамінамі. Яны працягвалі свой шлях да цясніны Лапісэ і прыехалі туды адвячоркам, недзе пасля трох.

— Вось тут, брат Санча, — сказаў Дон Кіхот, — мы зможам па самыя локці амыць рукі ў прыгодах, і хачу папярэдзіць, каб ты не лез у бойку, якая б небяспека мне ні пагражала, можа, калі толькі на мяне нападуць якія-небудзь смерды, а не высакародныя людзі, бо ты яшчэ не рыцар, а па рыцарскіх законах ты не маеш права абараняць мяне, пакуль цябе не зробяць рыцарам.

— Вядома, сеньёр, — адказаў Санча, — хай ваша міласць не турбуецца, тут я падпарадкуюся цалкам, бо сам я па натуры чалавек спакайнейшы і не задзірысты і не люблю ўмешвацца ў розныя сваркі ды бойкі; праўда, калі дойдзе да абароны маёй асобы, то я не надта пагляджу на рыцарскія правілы, таму што божыя чалавечыя законы ўсім даюць права абараняць сваю персону.

— Я згодны, — прамовіў Дон Кіхот, — але свае натуральныя памкненні ты павінен стрымліваць, калі захочаш мне дапамагчы змагацца з рыцарамі.

— Я так і зраблю, стрымаю, — запэўніў Санча, — і любыя правілы для мяне будуць абавязковыя, як малітва ў нядзелю.

Пакуль яны так разважалі, наперадзе паказаліся два манахі-бенедыктынцы, вярхом на двух вярблюдах, менавіта на вярблюдах — такія вялікія былі іхнія мулы. Яны ехалі ў дарожных акулярах і з парасонамі. Двое служак ішлі пешшу і паганялі мулаў, а за імі рухалася карэта, якую суправаджалі пяць або шэсць коннікаў. Як потым стала вядома, у карэце ехала дама з Біскаі ў Севілью, дзе жыў яе муж, які павінен быў неўзабаве адправіцца ў Амерыку, прызначаны на пачэсную пасаду. Манахі ехалі самі па сабе, проста ў адну дарогу, але Дон Кіхот, як толькі ўбачыў іх, сказаў свайму збраяносцу:

— Або я памыляюся, або зараз будзе самая славутая з усіх прыгод, якія толькі былі на свеце, бо гэтыя чорныя постаці там, наперадзе, павінны быць, ды й, безумоўна, ёсць, чарадзеі, якія ўкралі прынцэсу, а цяпер вязуць прэч яе ў гэтай карэце, але я зраблю ўсё, што магу, каб перашкодзіць іхнім злым задумкам.

— Гэта можа быць горш, чым з ветракамі, — адказаў Санча. — Паглядзіце, сеньёр, гэта ж браты-бенедыктынцы, а ў карэце, напэўна, едуць якія-небудзь падарожнікі. Глядзіце, каб нячысты зноў вас не падвёў.

— Я табе ўжо казаў, Санча, — запярэчыў Дон Кіхот, — што ты нічога не разумееш у прыгодах, а я кажу праўду, ты сам пабачыш.

Сказаўшы тое, дон Кіхот выехаў наперад, стаў пасярод дарогі, дзе ехалі манахі, і калі тыя наблізіліся, каб пачуць ягоныя словы, гучна сказаў:

— Асатанелыя пачвары! Зараз жа адпусціце на волю прынцэс, якіх вы гвалтам вывозіце ў карэце, а не — дык рыхтуйцеся да хуткай смерці як да справядлівай кары за ўсе вашыя злачынствы.

Манахі спыніліся, напалоханыя як выглядам Дон Кіхота, так і ягонай прамовай, і адказалі:

— Сеньёр рыцар, мы ніякія не пачвары, мы браты-манахі з Ордэна святога Бенедыкта, мы едзем сваёй дарогай і ведаць не ведаем, ці ёсць там у карэце ўкрадзеныя прынцэсы.

— Я добра вас ведаю, і вы мяне не купіце на салодкія байкі, хлуслівыя нягоднікі! — прамовіў Дон Кіхот і, не чакаючы адказу, прышпорыў Расінанта.

Ён увесь калаціўся ад злосці і з дзідаю наперавес з такой адвагай кінуўся на аднаго з манахаў, што, напэўна, забіў бы небараку, каб той загадзя не злез далоў з мула. Другі ж манах, пабачыўшы, як абышліся з ягоным таварышам, пачаў лупіць пяткамі па баках мула і паляцеў, як вецер, як падалей ад гэтай кампаніі. Санча Панса, убачыўшы аднаго манаха ўнізе, лёгка саскочыў са свайго асла і кінуўся здзіраць з небаракі апранахі. Тут падбеглі служкі манахаў і спыталіся, што гэта ён робіць. Санча адказаў ім, што ўсё ён забірае законна і па праву, бо ягоны гаспадар, сеньёр Дон Кіхот перамог у паядынку, а ўся здабыча належыць пераможцу. Служкі жартаў не разумелі, пра паядынкі і ваенную здабычу не чулі, а таму, пабачыўшы, што Дон Кіхот ад'ехаў, каб пагаварыць з падарожнікамі, накінуліся на Санчу і як след аддубасілі яго, збілі з ног, вырвалі ўсю бараду і пакінулі ляжаць на дарозе нерухома, амаль без прытомнасці. Спалатнелы ад жаху манах ускочыў на мула і, не губляючы часу, панёсся туды, дзе яго чакаў сябра, які здаля назіраў за ўсёй гэтай мітуснёй, а потым яны абодва паехалі далей, жагнаючыся так, нібыта за імі гнаўся сам нячысты. А Дон Кіхот, як і было сказана, пачаў размову з дамай у карэце:

— Цудоўная сеньёра! Ваша міласць зараз можа распараджацца сабою як захоча, бо пыхлівасць вашых выкрадальнікаў змецена і павержана ў пыл маёй магутнай рукой. А каб вы не пакутавалі ад таго, што не ведаеце, як завуць вашага збаўцу, дык я вам скажу, што маё імя Дон Кіхот Ламанчаскі, вандроўны рыцар, які шукае прыгод у гонар сеньёры сваёй, найпрыгажэйшай і непараўнальнай Дульсінеі Табоскай, да якой вы паедзеце і раскажаце пра ўсё, што я зрабіў, каб вызваліць вас, і такім чынам вы ўзнагародзіце мяне за гэтую добрую справу.

Гэтыя словы Дон Кіхота пачуў адзін слуга дамы-падарожніцы, які быў родам біскаец; ён зразумеў з усяго сказанага толькі тое, што Дон Кіхот хоча павярнуць іх назад у Табоса, а таму ён падскочыў да Дон Кіхота і на дрэннай трасянцы кастыльскай мовы з біскайскім дыялектам сказаў:

— Прэч адсюль, кабальера, каб табе дрэнна шлях! Клянуся Госпадам, што стварыць мяне, калі ты не пускаць карэту, я цябе заб'еш, каб я не быць біскайцам!

Дон Кіхот вельмі добра зразумеў гэтую мешаніну і спакойна адказаў яму:

— Каб ты быў кабальера, а не халоп, я пакараў бы цябе за дурасць і нахабства...

На што адказаў яму біскаец:

— Я не кабальера! Клянуся Госпадам, ты хлусіш, як хрысціянін! Калі ты кідаеш дзіду і выцягваеш меч, дык будзем пабачыць каго хто; біскаец табе сапраўдны ідальга і на зямля, і на мора, і чорт ведаць дзе, але ідальга, а ты хлуса будзеш, калі гаварыць інакай!

— Зараз пабачым, як казаў Аргалес, — адказаў Дон Кіхот, кінуў сваю дзіду, агаліў меч і, закрыўшыся шчытом, кінуўся на біскайца з цвёрдым намерам забіць яго. Біскаец, убачыўшы, як паварочваецца справа, хацеў саскочыць з мула, бо не давяраў наёмнай жывёліне, але паспеў толькі выхапіць меч, што праўда, на шчасце, ён быў побач з карэтай, а таму паспеў таксама схапіць адтуль падушку і затуліцца ёю, як шчытом, а потым ворагі кінуліся ў смяротны бой. Прысутныя хацелі неяк памірыць іх, але біскаец на сваёй амаль незразумелай тарабарскай мове зароў, што ён прыкончыць і гаспадыню, і любога, хто перашкодзіць яму закончыць бой. Падарожніца, уражаная і напалоханая ўсім тым, што адбывалася, загадала фурману ад'ехаць падалей і здалёк назірала за бойкай, у ходзе якой біскаец так рэзнуў Дон Кіхота па плячы, што разваліў бы яго да паясніцы, калі б той не затуліўся шчытом. Дон Кіхот адчуў сілу гэтага жахлівага ўдару і выгукнуў на ўсё моц: «О, сеньёра маёй душы, Дульсінея, кветка прыгажосці! Памажыце вашаму рыцару, які дзеля таго, каб задаволіць вашу дабрыню, праходзіць праз такое суровае выпрабаванне!» Сказаць гэта, сціснуць меч, затуліцца шчытом як найшчыльней было справай адной секунды для нашага кабальера, які вырашыў прыкончыць біскайца адным ударам. Біскаец убачыў рашучасць Дон Кіхота і ягоны высакародны гнеў, а таму вырашыў зрабіць тое ж, што і супернік: лацвей прыкрыўся падушкай з сядзення карэты і ні на крок не адступіў, таму не мог павярнуць свайго мула, стомленага даўгой дарогай і не звыклага да такіх забаў.

Такім чынам, як і было ўжо сказана, Дон Кіхот наступаў на біскайца, высока падняўшы меч, каб рассячы супарата напалам, а біскаец таксама высока ўзняў меч, абараняючыся падушкай, прысутныя ж, заміраючы ад страху, чакалі, што будзе, калі апусцяцца гэтыя высока ўзнятыя мячы, што будзе ад тых сакрушальных удараў, якімі яны пагражалі адзін аднаму; а сеньёра ў карэце разам са сваімі служанкамі ўзносіла гарачыя малітвы і абяцала паставіць свечкі ўсім святым і прынесці дары ва ўсе гішпанскія кляштары, каб толькі Госпад пазбавіў яе слуг і ўсіх астатніх ад гэтай небяспекі. Але тут, на жаль, адзін з аўтараў перарывае апісанне гэтай баталіі і, спаслаўшыся на тое, што далейшых звестак аб подзвігах Дон Кіхота няма, ставіць кропку. Праўда, другі аўтар гэтага твора не хацеў даць веры ні ў тое, што такая цікавая гісторыя апынулася забытай, ні ў тое, што ламанчаскія летапісцы аказаліся такімі абыякавымі, што нідзе не збераглі ў рукапісах ці ў пісьмовых сталах якіх-небудзь звестак, якія датычацца нашага рыцара, а таму другі аўтар не ўпадаў у роспач і спадзяваўся знайсці канец гэтай цікавай гісторыі; і, праўда, дзякуючы прыхільнасці нябёсаў ён знайшоў; пра тое ж якім чынам — раскажа другая частка. (...)

**Пераклад з іспанскай Якуба ЛАПАТКІ.**

*Увага!*

# Другая Нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі»

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны пры ўдзеле Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны праводзяць 18—19 траўня 1995 г. у Менску II Нацыянальную канферэнцыю «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі».

На канферэнцыі будуць разглядацца тэарэтычныя і дастасоўныя праблемы распрацоўкі, сістэматызацыі і практычнага выкарыстання беларускай навуковай тэрміналогіі ў розных галінах навукі, тэхнікі, культуры і народнай гаспадаркі. Працу канферэнцыі плануецца арганізаваць у форме пленарных пасяджэнняў і работы тэматычных секцый. Матэрыялы канферэнцыі будуць апублікаваны ў выніковым зборніку.

Аргкамітэт запрашае вас прыняць удзел у канферэнцыі. Заяўку на ўдзел трэба падаваць да 1 сакавіка 1995 г. на адрас: 220005, Менск, вул.Румянцава, ТБМ імя Ф.Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі. Просім паведаміць назву вашага даклада (і дадаць кароткую анатацыю яго зместу аб'ёмам да 1/2 старонкі), а таксама звесткі пра ваша месца працы і пасаду, навуковую ступень і навуковае званне, службовы і хатні адрас і тэлефоны.

Кантактныя тэлефоны аргкамітэта: 33-25-11, 39-50-61 (старшыня аргкамітэта Язэп Стапановіч), 39-44-47 (сакратар аргкамітэта Святлана Бельская).

**Старшыня аргкамітэта**
**Язэп СТАПАНОВІЧ.**

*Традыцыі і сучаснасць*



# Дзякуем!

Сябры суполкі ТБМ імя Ф.Скарыны Беларускага тэхналагічнага універсітэта перадалі рэдакцыі газеты «Наша слова» на набыццё выдавецкай сістэмы 110 тысяч рублёў. Рэдакцыя выказвае падзяку за матэрыяльную падтрымку прафесарам, дацэнтам і выкладчыкам згаданай ВНУ: Жарскаму І.М., Дзядзюлю П.В., Дзяміду М.П., Міляшкевічу Я.Г., Жалібу Б.М., Кулажанку І.А., Пятровай Л.Д., Баранчык У.П., Янушку А.Д., Няверару А.В., Савіцкай Н.Я., Звонаку А.М., Саламонаву А.А., Булаве А.Д., Ражкову Л.М., Федарцовай Т.М., Карповічу С.І., Вайцяховіч П.Я., Маркаву У.А., Гейзлер А.С., Малашонак І.Я., Пішчу І.У.

## І СМЕХ І ГРЭХ

*Зоран БОЖАВІЧ*

## Сакавіцкія ўрокі

Сакавік — месяц найбольшых выпрабаванняў пісьменнікам. Ад іх тады чакаюць немагчымага: каб уславілі жанчыну. Як матку, як жонку, як змагарку, як будаўніцу новага грамадства. Тут не дапамогуць ні лагеры сібірскія, ні Голы востраў, ні Белая кніга. Тут павінна пісаць ад душы. І рэдка які пісьменнік з такой задачай спраўляецца. Больш-шасць, калі напіша паводле сваіх магчымасцяў, мае праблемы. Ну, напрыклад, такія вось сцэны...

— Ведаеш, што твой сын атрымаў за сачыненне?

— Што?

— Тройку!

— Магло і горш быць.

— Сапраўды. Табе дзякуючы...

— А ты што, злуеш?

— Ну а як мне не злавацца. Ужо дзесяць гадоў цябе кармлю, абмываю, выпрасоўваю, а ты не можаш напісаць якіх-небудзь прыдатных дзесяць сказаў пра мяне і зарабіць хоць чацвёрку!

— Чаго цябе гэта кранае так?

— Яшчэ б не кранала! Ты там абы-чаго наплёў. А галоўнае, што я паўнаватая.

— Дык ты ж сапраўды тоўстая.

— Ну і што? Абавязкова было пра гэта згадваць? А ты не мог напісаць пра мае вочы? Усе кажуць, што ў мяне прыгожыя зеленаватыя вочы...

— Хто гэта «ўсе»?

— Бацькі, сябры... Ды і ты сам некалі так казаў.

— Гэта праўда. Але, пішучы, нека забыўся. Не прыйшло да галавы.

— Бо ты мяне ўжо не кахаеш!

— З чаго ты ўзяла?

— Э-э, гэтага не схаваеш. Відавочна, што сачыненне ты пісаў па абавязку, без аніякай іскрынкі замілавання. Таму і тройку атрымаў!

— Хацелася б мне ўбачыць, што ты магла напісаць.

— Будзь пэўны, пра твой клюкаты нос не згадала б...

— Дык ёну мяне сапраўды такі...

— І што з таго? Сачыненне — гэта не справаздача, у ім не абавязкова дакладнасць поўная.

— Выходзіць, ты б хацела, каб я зманіў?

— А чаму не? Адзін раз на год ты мог бы напісаць нешта прыемнае для мяне. І зманіўшы, калі трэба.

Вось што жанчынам патрэбна! Вось урок нашым пісьменнікам. І, дарэчы, тэма нарады ў Саюзе пісьменнікаў. Хопіць нам ужо герояў на вазах і на мерседэсах. Да герояў у спадніцах трэба паварочвацца. Гэта ж іхняя пара!

**З сербскахарвацкай мовы**
**пераклаў Іван ЧАРОТА.**

## Пачутае «У Лявона»

* * *

У адной вёсцы гулялі вяселле. Маладзы, як усе казалі, быў даволі скупы. Калі музыкі пачалі іграць «На дзень добры маладой», даў усяго адну тысячу.

— Вазьмі, — сказаў гарманіст, — рэшту. — І выдаў маладому дзесяць тысяч.

— Ага, — сказаў малады і ўзяў грошы.

* * *

Мужчына, які паміраў, паклікаў да сябе жонку і сказаў:

— Хутка я назаўсёды пакіну цябе, таму прашу — дай мне апошні доказ тваёй вернасці і кахання. У шуфлядзе майго стала ты знойдзеш пурпурную свечку, якую асвяціў Найвышэйшы Святар і якая нясе вялікі сэнс. Пакляніся, што ты не пабярэшся шлюбам з кім-небудзь іншым, пакуль гэтая свечка існуе.

Жанчына паклялася, і мужчына памёр. На пахаванні жанчына стаяла каля труны з пурпурнай свечкай і не адышла, пакуль свечка не згарэла дашчэнту.

*Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Шчодрасць вуснаў

*Пацалунак — як цунамі,*
*Пэўна ж знала: даганю.*

.....................................

*Ахінаюць, быццам крылы*
*птаха,*
*Стан твой рукі цёплыя мае.*
**Мікола АНТАНОЎСКІ.**

Зноў пасаг гадоў ірдзее
У адхланні запасным.
Ерэтычныя надзеі
Збеглі квеценню вясны.

Без сваволь на сэрцы спеўна.
Дзьме вятрэц гулліва ў твар.
Ты з аўторка — мне царэўна,
З панядзелка — я твой цар.

Спельны дух сады раздалі.
Зззяе ружаю дзяўчо.
Коні звонка ржуць удалеч,
А ўблізьмень вішнёвы свінчо.

Ты раскрыла, нібы крылы,
Свае рукі на плячах,
Пацалунак мне ўляпіла —
Стала зелена ў вачах.

Чуйце ж споведзі высновы:
Мне пачуццяў не хаваць,
Ад суботы я гатовы
Увесь свет расцалаваць.

### Вясновае пераўтварэнне

*Я прыйшла ў вясну*
*вяснянкаю,*
*Баравою кветкай-сном.*
**Іван КІРЭЙЧЫК.**

Летам ліпа круглалістая
Мне дарыла шчодра цень.
Песні я спяваў вячыстыя
І вударыў дзень у дзень.

Следам восень. Дождж
татахкае.
Туманы плывуць з ракі.
Яграбу картоплю пахкую,
Зношу ў пограб буракі.

Снег зімой бясконца
сцелецца,
Бальшакамі цуг вазоў.
У разгуле ўзвеймяцеліцы
Спеўны посвіст палазоў.

Як вясна прыйшла з
маланкаю,
Скалануў абшары гром,
Я той момант стаў вяснянкаю,
Рутай мятай пад акном.

*Вінцук АСЬЦЮК*

### Ты на клячу сеў сляпую

*Скачуць, скачуць вараныя —*
*Скакуны, нібыта вецер.*
*Ты ж на клячу сеў сляпую*
*І крыўдуеш, як дзівак.*
**Алесь БАБАЕД.**

Скачуць, скачуць вараныя—
Скакуны, нібыта вецер,
Нібы цацкі завадныя
У мяне па габінеце.

Ты ж на клячу сеў сляпую,
Ты, відаць, аслеп, браток.
Доўбняй ты не лупцуеш,
Кляча ўперад — ні на крок.

Паглядзі, як я гарцую
На зяркатым, на сваім.
Кралю я звязу любую,
Будзе следам толькі дым.

Нат цяпер за мной шуруюць
Сотні ўсякіх разявак.
Ты ж на клячу сеў сляпую
І крыўдуеш, як дзівак.

### Ну не дап'е ж!

*Ваўкаваты мой сусед*
*Самагонку вечна глушыць.*

.....................................

*А мне так яго шкада,*
*Хоць ты йдзі з ім выпі разам.*
**Анатоль ЗЭКАЎ.**

Што за час і што за свет?
Колькі год пытанне мучыць.
Ваўкаваты мой сусед
Самагонку з цэбра глушыць.

На яго гляджу з рання
І, як мамант, уздыхаю.
Цэбар — доза для каня,
Я дакладна гэта знаю.

Божа мой, бядак сусед,
Як палена, паваліўся.
Добра, што яшчэ зусім
Ён у цэбры не ўтапіўся.

Думаю, гатоў браток.
Ды гляджу, праз трубку локча
Самагонку, нібы сок,
І, як той падсвінак, рохча.

Не дап'е ж ён да дна! Бяда!
Людзі азвярэлі з часам.
А мне так яго шкада,
Хоць ты йдзі з ім выпі разам.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адлавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 6

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6789 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 6.02.1995 г. у 15 гадзін.